PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 48 (2063) ГОД XL БЕЛАСТОК 26 ЛІСТАПАДА 1995 г. ЦАНА 50 грошаў (5000 ст. зл.)



*Сабор св. Еўфрасінні ў Полацку.*

— Сваю нянавісць, — сказаў Ян Сычэўскі, — журналіст павінен абапіраць на факты, бо інакш ён не журналіст.

## БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА НАПЯРЭДАДНІ 40-ГОДДЗЯ

12 лістапада г.г. у Беластоку прайшоў пленум Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы. Пасяджэнне прысвечана было справаздачы кіраўніцтва арганізацыі за 1994/95 культурна-асветны год ды вызначэнню праграмы дзейнасці на наступны год.

### Госці

Пленум Галоўнага праўлення БГКТ меў урачысты характар. Беларускае таварыства запрасіла на яго, між іншым, войтаў гмін і бурмістраў гарадоў Беласточчыны. Шмат хто з іх у Беласток не прыехаў, некаторыя далалі на рукі старшыні БГКТ Яна Сычэўскага апраўданні і словы салідарнасці з пастановамі пленума. Сярод гасцей у зале пасяджэння былі: генеральны консул Рэспублікі Беларусь у Беластоку Міхал Слямнёў, паслы Сейма Рэчы Паспалітай Станіслаў Малішэўскі і Сяргей Плева, бурмістр горада Кляшчэлі Аляксандр Сяліцкі, дырэктар Аб'яднання ўстаноў удасканальвання настаўнікаў у Беластоку (член Галоўнага праўлення) Ян Зенюк. Былі таксама прадстаўнікі Куратрыі асветы, Ваяводскай управы ў Беластоку ды прадстаўнікі арганізацый, з якімі супрацоўнічае Беларускае таварыства.

### Справаздача

Справаздачу за мінулы культурна-асветны год зачытаў старшыня БГКТ Ян Сычэўскі. Кажучы пра дзейнасць Беларускага таварыства ў галіне асветы, Я. Сычэўскі прыгадаў наступныя факты. На Беласточчыне 45 школ, у якіх беларуская мова навучаецца як прадмет — колькасць навучэнцаў у актуальны момант перавышае чатыры тысячы. Новым элементам гэтага навучання з'яўляецца факт адкрыцця беларускага класа ў Пачатковай школе н-р 9 у Беластоку, дзе беларускую мову вывучае 12 дзяцей, а таксама і польска-беларускага прадшколля, дзе ў беларускай групе ўдзельнічае прыблізна 40 дзяцей. Беларускае таварыства кожны год праводзіць у школах конкурсы драматычных гурткоў і дэкламатарскія. Удзельнічае ў правядзенні конкурсу беларускай мовы ў пачатковых школах і алімпіяды па беларускай мове для ліцэяў. БГКТ удзельнічае ў польска-беларускай асветнай камісіі, а таксама праводзіць адбор выпускнікоў ліцэяў ды накіроўвае іх у вышэйшыя навучальныя ўстановы Беларусі. На думку Я. Сычэўскага, шанц працягваць сваю адукацыю ў вучэльнях Беларусі трэба даць таксама выпускнікам ліцэяў, у якіх беларуская мова не выкладаецца. Я. Сычэўскі паведаміў у гэтым месцы, што студэнты з Беласточчыны адмаўляюцца вывучаць у Беларусі беларускую мову, але датычыць гэта выпускнікоў беларускіх ліцэяў.

Распавядаючы пра культурную дзялянку актыўнасці БГКТ, Я. Сычэўскі сцвердзіў, што мерапрыемствы, арганізаваныя Беларускім таварыствам, паўтараюцца, бо яны дасканала ўспрымаюцца іхнімі ўдзельнікамі. А гэта: ёлкі для дзяцей у сядзібе БГКТ, фестываль „Беларуская песня", свята беларускай культуры ў беластоцкім амфітэатры, Купалле, фестываль „Гродна—Беласток", фэсты для жы-

*Працяг на стар. 8*

*Юры Баена*

## Пачатковыя школы ідуць пад самаўрады

Рапарты пра стан нацыянальнай адукацыі ў Польшчы за апошнія гады генеральна не даюць падстаў да задавальнення. З прычыны некалькіх ашчадных праграм, выніклых са сціпласці дзяржаўнага бюджэту, пагоршыліся ўмовы функцыяніравання адукацыйных установаў а таксама наступілі абмежаванні ў сферах інвестыцый і рамонтаў. Паступова занядбоўваюцца выхаваўчыя і апякунскія функцыі школ. У публічнай асвеце пануе амаль паўсюдны стан мерытарычнага ды метадычнага застою. Змаганні з усялякімі праявамі паталагічных паводзін маладога пакалення не прыносяць пажаданага поспеху. Прычыны агрэсіі дзяцей і моладзі найчасцей маюць першакрыніцы па-за школай. Адной з істотных прычын выхаваўчых праблем у школах з'яўляецца ліквідацыя пазаўрочных заняткаў, у тым ліку спартыўна-адпачынкавых. Цяжка выхоўваць моладзь, калі не хапае грошай на кніжкі, элементарнае спартыўнае абсталяванне, на кіно і тэатр, а экскурсія ў іншы рэгіён краіны застаецца толькі ў сферы мар.

Дэмаграфічная дэпрэсія апошняга дзесяцігоддзя прымушае дырэктараў дзетсадаў і школ звальняць настаўнікаў. На г.зв. „усходняй сцяне" яшчэ больш балючым ценем кладзецца цяпер дэмаграфічны крах вёскі. З-за роспачы, выкліканай пагрозай ліквідацыі класаў ці школ, у педагагічных калектывах нараджаюцца варожасць і канфлікты.

Пра настаўнікаў у кнігах і многіх мас-медыях пішуцца або гавораць вялікія словы. Праца педагога ў грамадстве вельмі прэстыжная, але малаплатная. У апошні перыяд наступіла рэзкае паніжэнне настаўніцкай зарплаты ў супастаўленні з прамысловым сектарам.

На шчасце ёсць і адваротны бок медаля. Дзякуючы выдатнай дапамозе гмін, праведзены ў школах шматлікія рамонты, пабудаваны новыя гімнастычныя залы, а нават — новыя школы. Большасць гэтых інвестыцый, зразумела, рэалізавалася з дапамогай кураторый асветы. Апрача таго многія самаўрады фінансавалі дадатковыя школьныя заняткі — гурткі мастацкіх і навуковых зацікаўленняў, спартыўна-адпачынковыя заняткі і мерапрыемствы. З кас некаторых гмін аплачваліся кошты рэалізаваных у найлепшых школах аўтарскіх праграм. Там менавіта быў зніжаны да максімуму лік вучняў у класах (25). Ёсць у Польшчы і такія гміны, якія даюць поўныя або частковыя стыпендыі тым настаўнікам, якія павышаюць кфаліфікацыі або перакваліфікоўваюцца (напрыклад русістам, якія хочуць стаць настаўнікамі заходніх моў).

У апошнім часе лепш ладзіцца супрацоўніцтва бацькоўскіх рад са школамі. Калі няма ўжо ніякага выхаду, бацькі добраахвотна сваімі грашыма плацяць за электраэнергію, ацяпленне, тэлефон, вываз нечыстотаў, купляюць санітарныя сродкі. Апрача гэтага папаўняюць яны школьныя бібліятэкі новымі кніжкамі, здабываюць грашовыя сродкі на закуп партаў, крэслаў, ксераксаў, фінансуюць культурныя і турыстычна-краязнаўчыя мерапрыемствы. То іменна бацькі найчасцей рамантуюць агароджы, малююць класныя кабінеты.

Ужо сёння больш за 50% настаўнікаў працуе ў самаўрадавых школах. 1 студзеня 1996 года — тэрмін абавязковага пераходу пачатковых школ у распараджэнне мясцовых самаўрадаў.

Пераход школ ставіць пад сумненне перш-наперш наступныя пытанні: Ці ўтрымліванне школ не зруйнуе бюджэту гмін? Ці прадстаўнікі гмінных упраў не стануць аказваць кадравы ціск? Ці будзе ў пашане Карта настаўніка? Ці не пачнуць звальняць з працы? Як складуцца людскія суадносіны паміж членамі педагагічных рад? Сігналы з Польшчы ў найлепшым выпадку — памяркоўныя.

Самаўрады не заўсёды прыязныя настаўнікам і асвеце. Вядома, могуць пасвойму парадкаваць розныя справы на сваім панадворку. Дубінай над беднымі настаўнікамі размахваюць асабліва тыя гмінныя кіраўнікі, у якіх мове і паводзінах аж да сёння засталіся трывалыя сляды іх колішніх праблем з адукацыяй і школай.

Зусім апраўданая боязь, што з утрыманнем школ фінансава не справяцца вясковыя гміны, асабліва з этнічнага памежжа і ўсходняй прыгранічнай зоны. Дзеячы гэтых гмін добра ведаюць, што скромная інфраструктура іх адміністрацыйных адзінак не так прыбытковая як гарадоў. Аднačасова на вёсцы кошт адукацыі дзіцяці адносна вышэйшы, чым у горадзе. Праўдападобна выступіць тэндэнцыя да ліквідацыі малых школ.

Паўперызацыя грамадства можа дыферэнцыраваць асвету, але толькі выключна паводле стану заможнасці бацькоў вучняў. Інакш кажучы, паўстануць школы для багатых і бедных. Багатыя будуць мець прыватныя ўстановы (хрысціянскія і ліберальныя) з цудоўным тэхнічным абсталяваннем

*Працяг на стар. 8*

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Liczący około 300 tysięcy mieszkańców Białystok jest największym skupiskiem miejskim ludności etnicznie ukraińskiej*, — pisze Jerzy Gawryluk (сакратар саюза бельскіх украінцаў) do:

*Gazety w Białymstoku, nr 255*

Як відаць, украінская „навука” на Підляшы не стаіць на месцы. „Dobra robota”, — ацэньваюць гэты факт мясцовыя палякі.

* * *

*Ujawnię agentów SB*, — абяцае міністр Мільчаноўскі .

*Gazeta Współczesna, nr 212*

Tak, trzymać!

* * *

*Polityka prorodzinna to zwiększenie liczby dzieci, ale tylko u rodzin, które gotowe są produkować dzieci za pieniądze! To zaśmiecanie narodu polskiego lumpami*, — сказаў Януш Корвін-Мікэ.

*Gazeta Wyborcza, nr 255*

* * *

*...не прыходзілася чуць, каб штодзённы выхад у свет знакамітага тыднёвіка „Ніва”, штодзённы выпуск яшчэ больш знакамітай радыёперадачы „Пад знакам Пагоні”, ды патанцоўку сеніёраў у памяшканні Галоўнага праўлення... назваў хто беларускім фестывалем*, — піша рэдактар Кастусь Разумак

*Czasopis, nr 11*

Самага знакамітага рэдактара Кастуся Разумака віншуем з нагоды выхаду 11-га нумара самага вядомага месячніка ў нашым скансэне. Захапляемся разам з Вамі Вашым непаўторным талентам і жадаем добрага апетыту.

* * *

*W Paryżu gorącym tematem są algierscy fundamentaliści, w Berlinie zaś polscy złodzieje samochodów i rosyjska mafia.*

*Polityka, nr 44*

Кожны мае свае праблемы, нават Сцяпан Абух не ў змозе ўва ўсім разабрацца.

* * *

*Выступаючы на сустрэчы з ветэранамі, Аляксандр Лукашэнка паведаміў сэнсацыйную навіну. Аказваецца, што ўсім няшчасцям Беларусі вінаваты дэмакраты. „Гэтыя апазіцыянеры, — сказаў Лукашэнка, — паставілі прэзідэнта перад неабходнасцю прыняцця непапулярных мераў. Адзінае, што стрымлівае Беларусь ад грамадзянскай вайны, гэта прэзідэнт — гарант Канстытуцыі”.*

*Свабода, н-р 45*

* * *

*Być może wejdziemy w stan zimnej wojny ze Stanami Zjednoczonymi, tworząc na Białorusi mały idiotyczny wariant Związku Radzieckiego. Wszystko jest możliwe w tym kraju, w którym za przyczyną prezydenta nie można mówić nawet o jakiejś sytuacji politycznej, a wyłącznie o klinicznej*, — сказаў старшыня Беларускага народнага фронту Зянон Пазьняк.

*Najwyższy Czas, nr 43*

* * *

*Gdyby do władzy w Polsce wrócili prawdziwi komuniści, Kwaśniewski i jego partyjni koledzy zostaliby pierwsi rostrzelani za zdradę.*

*Wprost, nr 45*

* * *

*W wodzie płynącej z kranów znajduje się aż 31 toksycznych substancji: fenoli, pestycydów, chlorowanych bifenyli i benzenów. Ponad połowa zakładów przemysłowych nie ma oczyszczalni ścieków i wszystkie odpady wylewają do rzek.*

*Wprost, nr 45*

Калісь з шумам прадавалі толькі піва, цяпер з гэтым дадаткам прапануецца ў рэстаранах таксама чай, без дадатковай платы.

* * *

*W Szwajcarii odbyło się głosowanie do dwuizbowego parlamentu. Nic się nie zmieniło.*

*Najwyższy Czas, nr 43*

* * *

*Tu w Hajnówce ci wszyscy „znajesz panimajesz” głosowali na Kwaśniewskiego.*

*Gazeta w Białymstoku, nr 258*

Знаем, панімаем!

* * *

*Młodzież na sali koncertowej podczas XIII Konkursu Chopinowskiego po grze Rosjanina Sułtanowa szalała z zachwytu. Kamery telewizyjne pokazały smutne panie z jury: miały tłuste pupy we łzach, że u nich w klasach tak Chopina się nie gra*, — піша Ежы Вальдорф

*Polityka, nr 44*

Султанаў не атрымаў першай узнагароды і абураны адмовіўся выступіць у канцэрце лаўрэатаў.

* * *

*Najhojniej nadają przywileje swoim pracownikom nie firmy dochodowe, ale monopolistyczne molochy o politycznym znaczeniu — telekomunikacja, energetyka, górnictwo, hutnictwo, od dawna bezkarnie trzymają łapy w państwowej kasie. Na czysto politycznym mechanizmie selekcji w Trzeciej Rzeczypospolitej korzystają tradycyjni już faworyci każdej władzy: wojsko, policja, górnicy, kolejarze. Ale do karty beneficjentów dołączyli ostatnio także rolnicy, kościół, księża. Uzupełnianie dochodów formalnymi i nieformalnymi przywilejami pozapłacowymi nie zmniejszylo się ani trochę od czasów PRL-u.*

*Polityka, nr 45*

У Англіі капіталізм будавалі пяцьсот гадоў, а не пяць. Прывілеі і льготы заўсёды былі прыкметай феадалізму, а асабліва яго найбольш развітай формы — камунізму.

* * *

*Konsorcjum Auto-Tak namawia klientów do kupowania Fiatów 126p, zapewniając odbiór samochodu w ciągu czterech lat. Tymczasem „maluchy” będą produkowane najwyżej tylko przez rok. Auto-Tak sprzedaje towar, którego nie ma i nie będzie.*

*Gazeta Współczesna, nr 216*

Гэта ёсць эканоміка г.зв. „etapu przejściowego”.

* * *

*Туркменистану голод не страшен. Каждый житель с 1 января 1996 г. будет ежемесячно получать от государства бесплатно 8 кг муки. Об этом объявил президент республики С. Ниязов.*

*Народная воля, н-р 27*

Туркменістан Ніязава дасягнуў ужо высокі ўзровень у пабудове „рыначнага сацыялізму” і апярэдзіў такім чынам краіну Аляксандра Лукашэнкі.

# З мінулага тыдня

**Напярэдадні Свята Незалежнасці** ў Свята-Мікалаеўскім саборы ў Беластоку правілася багаслужба за Айчыну, якую служыў Праваслаўны ардынарый Войска Польскага, архіепіскап Беластоцкі і Гданьскі **Сава**. У набажэнстве ўдзельнічалі, між іншым, шэф Управы па справах ветэранаў **Адам Даброньскі** і ваявода **Анджэй Гаеўскі**.

**У Беларусі** прабывала польская дэлегацыя, якую ўзначальваў віцэпрэм'ер, міністр фінансаў **Гжэгаж Калодка**. Перагаворы, у якіх побач прадстаўнікоў урадаў Польшчы і Беларусі прымалі ўдзел кіраўнікі Беластоцкага ваводства і Брэсцкай вобласці, прысвечаны былі абслузе таварнага транспарту на пагранпераходзе Кукурыкі—Казловічы. Абодва бакі падкрэслілі, што пытанні мытнага кантролю павінны вырашацца супольна. Адзначана таксама, што пастанова аб будове тэрмінала не павінна абмежавацца да заспакаення лакальных амбіцый, але служыць абодвум дзяржавам. У час сустрэчы не вырашана, ці на пераходзе будзе пабудаваны адзін супольны тэрмінал, ці два асобныя.

**Расіяне хочуць далучыць Беларусь**, а сведчаць аб гэтым аб'яўленыя агенцтвам „Інтэрфакс” вынікі апытання, праведзенага ў канцы кастрычніка, з якога вынікае, што 69% грамадзян Расеі прагаласавалі б на рэферэндуме за аб'яднанне з Беларуссю, а супраць выступілі б толькі 9%.

**Транспарт з гуманітарнай дапамогай**, сабранай у Беластоку Праваслаўным камітэтам дапамогі ахвярам вайны ў былой Югаславіі, шчасліва даехаў у Бялград. Чатыры грузавікі завезлі там 30 тон цёплай вопраткі, пледаў, спальных мяшкоў, харчовых канцэнтратаў, лякарстваў і санітарных сродкаў. Дары былі перададзены старшынёй камітэта **Яўгенам Чыквіным** Сербскай праваслаўнай царкве, якая размяркуе іх між найбольш патрабуючых.

**У Беластоцкай філармоніі** канцэртаваў беларускі піяніст **Андрэй Паначэўны** — лаўрэат III вылучэння і спецыяльнага прыза імя Ежы Жураўлева на XIII Шапэнаўскім конкурсе. Віртуоз зайграў I Канцэрт для фартэпіяна е-моль, опус 1 Фрэдэрыка Шапэна ў суправаджэнні сімфанічнага аркестра.

**Пагранічча нацыянальных культур** — так называлася двухдзённая навуковая канферэнцыя, арганізаваная аддзяленнем усходнеславянскіх філалогій Філіяла Варшаўскага універсітэта ў Беластоку. Навукоўцы з некалькіх айчынных універсітэцкіх цэнтраў, а таксама з Беларусі, Расеі, Украіны і Нямеччыны прадставілі даклады з галіны польска-балцка-славянскіх моўных, культурных і літаратурных кантактаў. Адкрываючы канферэнцыю, рэктар Філіяла ВУ праф. **Удадыслаў Сэрчык** сказаў: „Хочам указаць на самыя лепшыя традыцыі Рэчы Паспалітай, якія заўсёды заключаюцца ў тым, каб у суседзяў шукаць тое, што нас з імі спалучае, а не тое, што дзеліць, каб акцэнтаваць супольныя элементы, а не адрозненні”.

**У Кашаліне** адбыўся двухдзённы I Фестываль „З сябрамі аб Высоцкім”. У ім прымалі ўдзел самадзейнікі і прафесіянальныя дэкламатары і выканаўцы песень Уладзіміра Высоцкага. Падчас мерапрыемства адбылася таксама прэзентацыя паэтычнага зборніка славутага барда „Капрызныя коні” ў перакладзе Марлены Зімнай, заснавальніцы адзінага ў Польшчы музея, прысвечанага памяці расейскага паэта і спевака.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ”

- Звяз беларускай моладзі дамагаецца перапросін ад „Нівы”.
- Міністр асветы Беларусі абяцае праз год рэнесанс беларускасці на Гайнаўшчыне.
- Восенню над Семяноўскім возерам.



# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

## Незаконны ўказ

Канстытуцыйны суд разгледзеў адпаведнасць канстытуцыі і законам указа прэзідэнта ад 21 жніўня 1995 г. аб некаторых пытаннях зябеспячэння стабільнасці і правапарадку ў Рэспубліцы Беларусь. Справа была прынята да разгляду па ініцыятыве старшыні Вярхоўнага Савета. Паводле гэтага ўказа была прыпынена дзейнасць Пярвічнай прафсаюзнай арганізацыі Менскага метрапалітэна, Свабоднага прафсаюза Беларусі, а таксама скасавана дэпутацкая недатыкальнасць. Канстытуцыйны суд прызнаў пункты з 1 па 4 указа прэзідэнта за нумарам 336 не адпавядаючымі канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь.

## Парушэнні правоў чалавека

Кіраўнік Беларускай лігі правоў чалавека дэпутат Яўген Новікаў наведаў Брусель. У сталіцы Бельгіі ён прабываў па запрашэнні Камісіі па правах чалавека Еўрапарламента. Яўген Новікаў дзве з паловай гадзіны адказваў на пытанні дэпутатаў Еўрапарламента. У першую чаргу іх цікавіла, ці зрабіла Беларусь рэальныя крокі ў галіне дэмакратызацыі жыцця грамадзян. Адказваючы на гэтае пытанне, кіраўнік БЛПЧ адзначыў: сітуацыя не толькі не палепшылася, але і пагоршылася, паколькі ўзрасла колькасць фактаў парушэння правоў чалавека, што праяўляецца ў ліквідацыі свабоды слова, у арыштах людзей, у тым ліку дэпутата ВС падчас забастоўкі менскіх метрапалітэнаўцаў, у пагаршэнні ўмоў утрымання ў турмах і ў нездавальняючай рабоце суддзяў.

## Чарнобыльскі храм

Прайшло амаль дзесяць гадоў з дня чарнобыльскай катастрофы, але гэтая трагедыя ўсё яшчэ гулкім рэхам адгукаецца ў людскіх сэрцах. Яшчэ цяжэйшыя пакуты ў тых, хто страціў сваіх родных, аднак з-за розных абставін не можа наведаць магілы блізкіх. Каб аблягчыць іх гора, Асацыяцыя работнікаў праваахоўных органаў „Шчыт Чарнобылю” пры падтрымцы Беларускага фонду „Дзеці Чарнобыля” і мітрапаліта Менскага і Слуцкага Філарэта выступіла з ініцыятывай пабудаваць у Менску праваслаўную капліцу ў памяць аб ахвярах чарнобыльскай катастрофы. Асвячэнне месца пад яе будаўніцтва ў скверы пры скрыжаванні вуліц Арлоўскай і Карастаянавай уладыка Філарэт правёў 9 лістапада. Плануецца, што першая служба ў капліцы пройдзе 26 красавіка будучага года ў дзесятую гадавіну з дня трагедыі.

## Фестываль беларускай капэлы

Канцэртам „Песня нашага Касцёла”, у якім прагучалі вакальныя творы і арганная прэлюдыя вядомага польскага кампазітара Станіслава Манюшкі, у пяты раз адкрыўся ў Менску фестываль пеўчага мастацтва „Адраджэнне пеўчай капэлы”. Арганізатарамі гэтага мерапрыемства выступілі Міністэрства культуры і друку, Дзяржаўны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета, Беларуская дзяржаўная філармонія і Нацыянальнае тэатральна-канцэртнае аб'яднанне „Беларуская капэла”. На працягу тыдня аматары гэтага амаль забытага пеўчага мастацтва маглі паслухаць цудоўныя творы старадаўніх і сучасных беларускіх кампазітараў у выкананні салістаў опернага тэатра і мужчынскага камернага хору „Унія”. Завершыў фестываль канцэрт „Беларускі царкоўны спеўнік”. Творы беларускіх кампазітараў розных пакаленняў выканаў камерны хор „Санорус”.

## Зноў вярнулася свята

Сёлета зноў адзначалася гадавіна Вялікай сацыялістычнай кастрычніцкай рэвалюцыі. У 1991 годзе Вярхоўны Савет XII склікання адмяніў гэтае свята, а 1995 стаў годам аднаўлення традыцыйнай чырвонай даты. Святочныя мерапрыемствы прайшлі ў многіх гарадах, у тым ліку і ў Менску. Партыя камуністаў, Менскі гарадскі савет афіцэраў і Рух за дэмакратыю, сацыяльны прагрэс і справядлівасць правялі мітынг на плошчы Незалежнасці і шэсце да помніка Перамогі, а Народна-патрыятычны рух „Айчына” наладзіў мітынг за аб'яднанне народаў рэспублік былога СССР.

## Ахвярам рэвалюцыі

Прадстаўнікі Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады сабраліся 8 лістапада ў царкве Аляксандра Неўскага, што на Вайсковых могілках горада Менска, у цэрквах і касцёлах іншых гарадоў. Грамадоўцы заказалі на 11 гадзін паніхіды па ўсіх загінуўшых у братазабойчай грамадзянскай вайне, якая пачалася пасля кастрычніка 1917 года.

## Доларавы хабарнік

Народны суд Ленінскага раёна Менска абвінаваціў былога дырэктара Беларускага цэментнага завода, дэпутата Асіповіцкага гарадскога савета Яўгена Радзевіча ў атрыманні хабару і асудзіў яго да 9 гадоў пазбаўлення волі. Радзевіч быў злоўлены ў момант атрымання хабару ў памеры 12 тысяч долараў.

# Расплата за камбайн

Жніво канчаецца восенню малацьбой. Цяпер аднак, калі амаль усе жнуць камбайнамі, можна на яго забыцца ўжо ў верасні. Каб так зрабіў Іван, не апынуўся б з-за жніва ў шпіталі. У лістападзе!

Іван наняў камбайн з суседняе вёскі, з кулка. Тут жа на полі заплаціў за паслугу. Камбайнер не меў здачы, застаўся вінаваты 165 тысяч старых злотаў. Нічога страшнага, ды і мужчына знаёмы.

Час ішоў, але чамусьці доўгу ні віду, ні слыху. Іван будучы ў той вёсцы, пры нагодзе зайшоў і да камбайнера. Яго самога не заспеў у хаце, але дзеці — ужо не малыя — праверылі спіскі палявых працаў бацькі і не знайшлі там такога запісу, што Івану не заплачаны грошы. Не знайшлі, то не. Іван не вельмі тым усхваляваны пасхаў дадому. На другі дзень прыпіраe на маторы камбайнер, здзіўлены, што Івану не перадалі гэтых грошай. Зараз на другі дзень гэты камбайнер жаў у Іванавага суседа, Сенькі і перадаў ім доўг.

Пайшоў камбайнер да Сенькі, які сказаў, што грошы даўно аддаў Івану. Спатыкае яго Іван і пытае пра гэта. „Я табе аддаў, у чатыры глаза", — Сенька любіць прыхарошваць сваю мову рускімі слоўцамі, гэта прызнак, што доўга цёрся каля царквы, а то як стораж, а то свечкі прадаваў, а то на кліраc заходзіў, пакуль дзяк яго адтуль не прагнаў. Другі раз спаткаў Іван Сеньку і зноў пытае, як там грошы, а той спакойна: „Нармальныя, польскія злоты". Прабаваў Іван распытацца, дзе і калі аддаў іх яму Сенька, але той толькі паўтараў: „Аддаў, аддаў, у чатыры глаза".

Сядзелі ў нядзелю мужчыны на лавачцы, паміж імі Іван, а тут Сенька вядзе вярхом кабылу з пашы. Іван быў крышку падпіты, дык перапыніў яго: „Аддавай мае грошы!" Калі той зноў пачаў сваё, то ўзяў яго і сцягнуў з кабылы на зямлю (Іван, хаця 1924 года нараджэння, але моцны мужчына, каржакаваты такі, а Сенька на пару гадоў старэйшы за яго). Потым з-за гэтага нават паліцыя ў вёску прыязджала, але ўсё разышлося, бо хто ж пойдзе ў сведкі на свайго.

Сенька жыве з жанатым сынам, Васілём. Пасля гэтага людзі перасцерагалі Івана. Слухай, казалі, Сенька з Васілём гразяцца, што дадуць табе бабулькі. Іван, сам не зломак, толькі ўсміхаўся на гэта: „У мяне з сабою заўсёды нешта ёсць".

Вечарэла ўжо, калі Іван вяртаўся з першага тура выбараў. Не даязджаючы да вёскі, перапынілі яго Сенька з Васілём. Трэба было клікаць хуткую дапамогу, якая забрала Івана ў шпіталь. Так скончылася для яго жніво.

ак

# Дубяжын старэе

Дубяжын — адна з большых вёсак Бельскай гміны. Ёсць тут медычны пункт, дзве крамы. Была школа. У мінулым годзе ліквідавалі яе ў рамках рэструктурызацыі. Вучняў не хапала. На восем настаўнікаў было дваццаць дзетак. Зараз дзяцей давозяць у Кнарыды.

Ёсць і святліца, пабудаваная грамадскім пачынам. Калі б я не ехаў у Дубяжын, спаглядаю на будынак, які, быццам нікому непатрэбны старэча, стаіць на пачатку вёскі. Адзінокі і маўклівы.

Даўней у святліцы быў клуб „Рух". Бурліла жыццё. Арганізаваліся танцавальныя вечарыны. Гуляліся вяселлі. Зараз святліца пустуе. Толькі ў доўгія, зімовыя вечары збіраюцца тут мужчыны ды хлопцы, каб пайграць у карты.

Такая ж доля спаткала школьны будынак. Праўда, адзін з іх выкарыстоўвацца Гуртком вясковых гаспадынь. У адной зале размясціўся пункт пракату пасуды, у другой збіраюцца самадзейнікі мастацкага калектыву „Радзіна".

Большы школьны аб'єкт, гэты за вёскай, чакае пакорна гаспадара, які добраўпарадкуе будыніну.

Старэе вёска Дубяжын. Хіляцца драўляныя платы каля апусцелых сяліб. Не відаць новых дамоў. Пастарэлы брук невядома калі пакрые асфальтавае палатно. Дубяжынцы неахвотна ставяцца да таго, каб самім пабудаваць новую вуліцу. Чакаюць, што гміна ім зробіць гэтае. У Бельскай гміне пакуль што не хапае грошай, кажа мясцовы радны Янка Тамчук. А дубяжынцы пра грамадскі пачын ужо забылі.

Што чакае гэтую вёску ў недалёкай будучыні? Ці забурліць культурнае жыццё ў апусцелай святліцы? Ці школьныя залы запоўняцца вучнямі і пачуецца гоман дзетвары? На гэтыя пытанні адкажа час.

Уладзімір Сідарук

# МІКАЛАЙ ЛЯШЧЫНСКІ (1919—1995)



Калі магчыма жыць зусім без ворагаў, дык так жыў Мікалай Ляшчынскі. Я не ўяўляю сабе чалавека, які б мог сказаць на яго хоць адно дрэннае слова.

Гасцявалі мы ў яго са студэнцкім рэйдам „Бацькаўшчына 4" летам 1987 года. Больш за трыццаць асоб разлажыліся табарам у цэлай хаце, у садку. Які мы балаган тады там учынілі! Ён на нашыя — маладых — шаленствы глядзеў з разумнай усмешкай дасведчанага чалавека. Рады пагаварыць з кожным, папытацца пра вучобу, падзяліцца толькі што прачытаным. Таму і не міналі мы ягонай хаты. Ці то зноў была нейкая вандроўка, ці Купалле, ці так проста заехаўшы ў Орлю.

Стары педагог — настаўнічаць пачаў пры саветах у Лыскаве каля Пазаразва, пасля вайны вучыў у Васьках, Тыневічах, Грабаўцы, Орлі — да канца быў адкрыты на свет і захоўваў вялікую павагу да навукі. Вывучыў некалькі пакаленняў, тысячы пэўна, калі мерыць лічбамі, людзей. А сам увесь час адчуваў прагу да ведаў.

Калі, бывала, заеду ў Орлю, Мікалай Ляшчынскі частаваў моцнай гарбатай, прыкурваў „папулярную" і расказваў, што ён апошнім часам вычытаў. Цікавіла яго ўсё: мясцовая гісторыя, назвы мясцовасцяў, зёлкі, паэзія... Прачытае сказ, які захопіць яго бязмежна, пераліша для памяці, доўга ім любуецца і хоча падзяліцца кніжнай мудрасцю. Цікавіла яго і тое, што бачыць вакол сябе. Але не так, як большасць людзей, гатовых бясконца слухаць і пераказваць далей танныя сенсацыі, плёткі, паклёпы. На такое Мікалай Ляшчынскі быў глухі. Яго магла цалкам запаланіць таямніца прыроды — перaўтварэнне нейкага чарвяка ў прыгожага матылька або даўгавечнасць і розум птушак. На людскія страсці глядзеў як на нешта часовае, пасля чаго не застаецца следу.

Бачыў, як мы, сябры сына, дарастаем, сталеем. Цешыўся кожнаму, нават дробнаму поспеху. Мне заўсёды казаў, што думае пра той ці іншы мой артыкул. Калі за што папракаў, то за малаважную часамі тэматыку. Сам у сваіх допісах у „Ніву" цаніў кожнае слова, пісаў толькі пра істотнае і заўсёды стараўся прывесці навуковыя аргументы. Не любіў дылетанцкага пустазвонства.

Калі ў час каторыхсьці выбараў пачаў я — моцна ў іх заангажаваны — даказваць сваю праўду, ён, выслухаўшы мяне, расказаў некалькі гісторый з перажытага ім. А перажыў ён і санацыю, і саветаў, і прымусовыя работы ў ваеннай Нямеччыне, і „народную дэмакратыю". Расказваў, як людзі мянялі свае погляды, як тое, што ў пэўны час здавалася бясцэнным, потым абясцэньвалася, як мяняліся прыяцелі і ворагі. Нікога ён не асуджаў, кожнага стараўся разумець. Але ў гэтым зменлівым свеце меў і ён сталыя каардынаты. Як хаця б сумленне. Для яго была гэта каштоўнасць, якая ніколі не мяняецца і не праходзіць ніякай дэвальвацыі. Прайшло пару гадоў, а я ўжо і не помню, якія то я важкія аргументы тады прыводзіў. Але яго словы памятаю добра.

Мікалай Ляшчынскі навечна заснуў над кніжкай.

Мікола Ваўранюк

# Вясковы музыкант

Рыгора Рэпку яшчэ 25 гадоў таму кузаўцы называлі сваім вясковым музыкантам.

У сапраўднасці так і было. Грыша вырас у Кузаве. Тут правёў сваё дзяцінства, юнацкія гады. І хаця працаваў на чыгунцы ў Чаромсе, то большасць свайго жыцця мінула яму „на кашарцы" (у казарме), якая знаходзіцца за Кузавай.

Грыша любіў музыку. З дзяцінства захапляўся гармонікам. Бацькі, бачыўшы яго прыроджаны талент, купілі яму гармонік. Пакойная мая маці неаднойчы расказвала, што Грышу бралі іграць на вяселлі ўжо з маладых гадоў. Сядзеў такі хлапчук, з-за стала не відна яго было, але прыгожа іграў.

— Пачаў я іграць з дванаццаці гадоў, — успамінае зараз Рыгор Рэпка. — Прафесіянальна музыкі не вучыўся. Вось так, сам па сабе. Іграў я на танцавальных вечарынах, вяселлях, хрысцінах. Неаднойчы выязджаў з кузаўскімі самадзейнікамі ў Арэшкава, Плянту ці іншыя вёскі Гайнаўшчыны. Далёка ў наваколлі мяне ведалі як музыканта. Іграў я са сваім музычным калектывам з трох чалавек на „данцынгах" у рэстаранах „Іва" ці „Турыстычная" ў Белавежы. Многае бачыў у мінулым. Па-рознаму праводзіліся тады гульні па вёсках. Былі такія вёскі, што ніводная „забава" не абышлася без бойкі. Біліся хлопцы з-за дзяўчат. Вёска супраць вёскі выступала. Аднак былі і культурныя вечарыны.

Зараз Рыгору Рэпку больш за восемдзесят гадоў. Ён чыгуначны пенсіянер. Жыве па-даўнейшаму, у „кашарцы" паміж Кузавай і Чаромхай. Не займаецца ўжо музыкай.

— Не тыя гады, са строю выйшаў, — кажа. — Часам, аднак, заманіцца выцягнуць свой прыгожа пазалочаны італьянскі, піцідрады гармонік і прабегчы пальцамі па яго клавішах.

Успамінаецца тады вясковаму музыканту ягоная маладосць, мінулая даўніна, якая назаўсёды адыходзіць з чалавечай памяці разам з культурай нашых бабулек і бацькоў.

Уладзімір Сідарук

# Школьнікі працавалі

200 школьнікаў з Нараўкі ды іх настаўнікі ездзілі ў лес на беразе Сямяноўскага вадасховішча. Яны ліквідавалі „дзікія" звалкі, на якіх валяліся дзіравыя каструлі і гаршчкі, такія ж вёдры, цагляны і кафляны друз, кавалкі шкла і шклянога посуду, бутэлькі.

Пасля закончанай працы яны сустрэліся з надляснічым надлясніцтва Броўск ля вогнішча, з'елі смачны абед ды ўдзельнічалі ў конкурсе па экалогіі.

Прыбіралі ў бліжэйшым ад вёскі лесе вучні са школы ў Лешуках. Потым прыехала землечарпалка і ўсё, што яны сабралі, закапала ў глыбокі дол.

Пасля працы вучні падсілкаваліся смачнымі, прыпечанымі на агні, кілбаскамі. Адбыўся таксама конкурс па ахове прыроды. Журы ўзнагародзіла Анну Харашэўскую, Збігнева Пташынскага, Юзэфа Рэента, Дароту Пташынскую, Кацярыну Харкевіч, Юстыну Харашэўскую, Адама Матвеюка і Барбару Харкевіч.

Школьная моладзь з Ласінкі прыбрала школьны пляц (між іншым апаўшае з дрэў лісце) ды дзве аўтобусныя пачакальні ПКС. Адну з іх яны памалявалі алейнай фарбай. Працавалі ўсе 69 вучняў і 8 настаўнікаў.

(яц)

# Ёсць вада

Нядаўна здалі ў карыстанне водапровад з Рэпіскаў у Барысаўку, што ў Гайнаўскай гміне. Ваду з крана атрымалі 90 вясковых сем'яў у Рэпісках, Барысаўцы, Альховай Кладцы і Галяковай Шыі.

Варта адзначыць, што вялікі зрух у галіне пабудовы водаправодаў у Гайнаўскай гміне пачаўся тры гады таму. Зараз, дзякуючы вялікім намаганням гмінных улад на чале з войтам Вольгай Рыгаровіч, ужо амаль 95% гміны мае водаправоды. Сёлета на іх пабудову адвялі з гміннай касы звыш 5 мільярдаў старых злотаў.

(ця)

## Актыўны школьны самаўрад

Вельмі актыўна працуе школьны самаўрад у Ласінцы (Нарваўская гміна), якому ад імя педсавета дапамагае настаўнік тамашняй школы Ян Грынявіцкі. Старэйшыя класы ездзілі ў Рыбакі, дзе працавалі пры добраўпарадкаванні лесанасаджэнняў у Надлясніцтве Броўск пад кіраўніцтвам ляснічага Міхала Андраюка-Савіцкага. Зарабілі 5,2 млн. злотаў.

Зараз члены самаўрадавай арганізацыі рыхтуюць насценгазеты, дапамагаюць слабейшым у навуцы калегам, арганізоўваюць дыскатэкі з конкурсамі, балі-маскарады, сустрэчы з незнаёмым узорам тэлевізійнай забавы „randka w ciemno".

Самаўрад клапоціцца пра чысціню і парадак у школьных залах і на панадворку. Ля школы будуць пасаджаны дэкаратыўныя дрэўцы. Нядаўна школьнікі прадалі ў пункце скупкі 260 кілаграмаў макулатуры.

За сабраныя грошы вучні плануюць паехаць на экскурсію на мора або ў горы. Адкрылі свой банкаўскі рахунак: Samorząd Uczniowski przy Szkole Podstawowej w Łosince, PBK SA Hajnówka, nr 370422-938-132.

Актыўнымі членамі школьнага самаўрада з'яўляюцца Тамаш Гаўрылюк (старшыня), Пётр Раманюк, Барбара Дубко, Мажэна Мінко, Марцін Монах, Кацярына Пракапюк і Лукаш Селіванюк.

(яц)

11 лістапада 1995 г. на 76 годзе жыцця памёр
**МІКАЛАЙ ЛЯШЧЫНСКІ**
шматгадовы настаўнік Пачатковай школы ў Орлі, карэспандэнт „Нівы".
Словы шчырага спачування
**Васілю і Юрку Ляшчынскім**
з прычыны напаткаўшага Іх гора
— смерці Бацькі —
выказвае рэдакцыйны калектыў „Нівы"

**Глыбокае спачуванне**
**Лідзіі Саевіч**
**з прычыны**
**напаткаўшага яе гора**
**— смерці Маці —**
**выказвае**
**Праўленне Аддзела БГКТ**
**у Гайнаўцы**

# БЫЛА ТОЛЬКІ АДНА АСНОВА

**Размова са старшынёй Навукова-аналітычнага цэнтра „Беларуская перспектыва" ВАЛЯНЦІНАМ ГОЛУБЕВЫМ**



*— Навукова-аналітычны цэнтр „Беларуская перспектыва" ўзнік у верасні г.г. пасля пройгрышу апазіцыі на майскіх выбарах у Вярхоўны Савет. Стварылі яго ў большасці людзі з былога кіраўніцтва БНФ. Ці абазначае гэта змену тактыкі Фронту, ці яго падзел?*

— Я лічу, што гэтае пытанне пастаўленае няправільна. Пастанова аб стварэнні Цэнтра „Беларуская перспектыва" ўзнікла значна раней, чым наступілі паслявыбарчыя падзеі. Ідэя ўзнікла ў асяроддзі навуковай і творчай інтэлігенцыі, якая не была ў структурах ніякай партыі, але хацела нешта зрабіць для Беларусі. Да камуністаў яны не пайшлі, бо ў свой час перажылі вялікае расчараванне, выказацца за ўладамі таксама не маглі, бо былі рашучымі прыхільнікамі ўласнай дзяржаўнасці, а ўлада ў нас, як вядома, антыдзяржаўная.

Сярод навуковай і тэхнічнай інтэлігенцыі было шмат рускамоўных, якім цяжка было перайсці на беларускую мову. Некаторыя нашыя палітыкі сваімі паводзінамі адкідалі іх, не ўлічвалі як патэнцыяльных саюзнікаў у пабудове дзяржавы і дэмакратыі. Але прыйшоў час і людзі з палітычнай апазіцыі зразумелі, што трэба яднацца на нейкай важнай для Беларусі платформе. Была толькі адна аснова — ідэя беларускай дзяржаўнасці. Калі цяпер пагражае Беларусі тое, што дзяржава можа знікнуць, трэба яднацца ўсім — Фронту, лібералам, сацыялістам і камуністам. Усе згодна дайшлі да высновы, што яднанне такое не можа мець палітычнага характару, не можа фармавацца паводле палітычных прынцыпаў, ні арганізавацца лідэрамі палітычных партый. Я ўжо не намеснік старшыні БНФ. Апрача мяне выбраны яшчэ два старшыні — Аляксандр Фядута — былы шэф Камсамолу і Уладзімір Анцулевіч — былы старшыня камісіі па збору подпісаў па роспуску Вярхоўнага Савета.

*— Але самая мэта існавання Цэнтра — захаваць беларускую дзяржаўнасць — мае чыста палітычны характар.*

— Мы спрабуем гэта зрабіць як грамадскія дзеячы. Найважнейшае, лічым, растлумачыць усе складанасці палітычнага, грамадскага жыцця нашаму насельніцтву. Хочам проста выхаваць грамадзяніна, свядомага сваіх палітычных выбараў. Інакш будзе так, як да гэтай пары. Людзі галасаваць будуць на ўсялякіх авантурыстаў.

*— Што новага можа запрапанаваць „Беларуская перспектыва" грамадству? Ці ёсць нейкі план, каб пераканаць яго да зменаў, бо пакуль што ніякай апазіцыйнай партыі гэта не ўдалося.*

— Мне вельмі спадабаліся словы Біла Клінтана, які звяртаючыся да нашых дзяцей у Курапатах сказаў: „Беларускі народ ідзе тым самым шляхам, якім калісь прайшоў амерыканскі народ. Дзеці, памятайце, што дэмакратыя і свая дзяржава ёсць найважнейшымі каштоўнасцямі". Я, як палітык і гісторык, магу сказаць, што толькі тыя народы добра жывуць, якія працуюць на сябе. Мы ідзем не з лозунгамі, але з прапановай адукацыі грамадства. Праводзім, напрыклад, семінар пра сельскую гаспадарку, збіраем сялян з калгасаў і паказваем ім сусветныя дасягненні. Можа сарганізуем выезд некаторых з іх за мяжу, каб пабачылі, як арганізуюць сваю працу фермеры на Захадзе. Хочам паспрыяць стварэнню прыватных фірмаў. Прадпрымальнік, калі вядзе нейкую гаспадарчую дзейнасць, зарабляе не толькі сам, але і дае зарабіць іншым.

Ведаем таксама, што без свабоды слова немагчымае нармальнае жыццё. Хочам перш за ўсё даказаць моладзі, што можна ніадрэнна жыць, дзякуючы сваёй працы, актыўнасці, а не нейкай міфічнай уладзе.

*— Якія асноўныя праблемы, паводле Вас, трэба вырашаць найперш — мяняць заканадаўства, пераконваць людзей да незалежнасці, рынкачай эканомікі — каб людзі паверылі ў сэнс рэформ, зменаў, каб яшчэ раз беларусы не здзівілі свету нейкім скандальным рэферэндумам.*

— Я бачу гэта так, што таталітарызм пасля 70-гадовага практыкавання мае прамоўжны ўплыў на свядомасць народа і гэтага так хутка немагчыма пазбыцца. Большасць людзей пакуль што не можа сабе ўявіць, як гэта можа так быць, што кожны можа рабіць што хоча. Незразумелай становіцца ім сітуацыя, калі ніхто не паказвае, што рабіць, як думаць, дзе спаць, куды паехаць. Некаторыя не могуць зразумець людзей, якія гавораць, што іх асабістыя інтарэсы таксама важныя як і дзяржаўныя.

Заходні лібералізм гэта для большасці нешта гнілое, абман працоўных мас, каб лепей іх эксплуатаваць. Гэтае мышленне зафіксаванае на ўзроўні падсвядомасці і ўсякія слоўныя аргументы гэтага не адменяць. Наступіла замбіраванне самасвядомасці. Беларускі менталітэт — гэта нішто іншае, як чалавек, які ведае што ён — беларус, але аднachасова рускі. Ім гаварылі: „вы беларусы, але вы тыя самыя рускія, а нават яшчэ лепшыя за рускіх, вы больш гасцінныя, лепш працуеце". Быццам бы рускі быў самым працавітым чалавекам у свеце. На мужчын вельмі паўплывала служба ў савецкай арміі. Тыя, што ваявалі з фашызмам, маюць пачуццё нейкай супольнасці лёсаў. Усе гінулі як савецкія людзі за супольную „родину". Пасля вайсковае выхаванне было такое, што ўсё, што было за межамі савецкай зоны ўплываў, было толькі варожае, захопніцкае, пачварнае. Выступленні Лукашэнкі таксама адклікаюцца да замбіраванай падсвядомасці. Рацыянальна думаючы чалавек адкіне ўсё, што ён гаворыць, як бессэнсоўнае. Але, напрыклад, фільм Азаронка „Нянавісць", наяўна хлусліvы, у вялікім працэнце вырашыў лёс рэферэндуму. Недзе ў падсвядомасці людзей было закадавана ўсё тое, што Азаронак зрабіў зместам фільма. Не рэчаіснасць, але прадбачаны савецкай школай індактрынацыі спосаб мышлення чалавека.

Ёсць аднак і другі момант нашага выхавання. Беларусы 200 гадоў былі ў складзе рускай імперыі. Хочам мы ці не хочам, але мы моцна з імі пераплецены: хто мае жонку рускую, хто бацьку, хто матку. Людзі баяцца згубіць сямейныя кантакты. Кожны антырасейскі радыкалізм з боку нашых палітыкаў выклікае перапалох у большасці грамадзян Рэспублікі.

Супраць інтэграцыі з Расеяй дзейнічае той факт, што яна безупынна вядзе нейкую вайну — Чачня, Таджыкістан. Людзі памятаюць аднак, што Беларусь надта часта была арэнай войнаў. У нас ужо генетычна закладзены страх перад вайной. Аб'яднацца з Расеяй — гэта абазначае быць бліжэй ваеннай пагрозы. Таму не дзіўна, што беларусы не маюць нічога супраць рускай мовы, але гэта не абазначае, што хочуць далучэння да Расеі.

*— Што тады, паводле Вас, чакае Беларусь у бліжэйшай будучыні?*

— Ужо шэсць гадоў я стараюся прапагандаваць незалежнасць Беларусі. Жыццё паказвае, што беларусы больш падрыхтаваныя да жыцця ў сваёй дзяржаве, чым нам здаецца. Я ўпэўнены, што ў нас нядрэнныя перспектывы. Прыклады з замежжа і з краіны раней ці пазней прывядуць да таго, што народ не толькі зразумее неабходнасць незалежнасці, але і запатрабуе яе ад ураду. Тады і не шкада будзе ўсіх гэтых намаганняў, якія рабіліся апазіцыяй на працягу шасці апошніх гадоў.

*Дзякую за размову, жадаю дасягнення пастаўленых мэтаў.*

**Размаўляў Яўген Міранovіч**

# Кулісы спробаў кабінетных перамоў

У „Ніве" н-р 43 ад 22 кастрычніка Ян Сычэўскі, як старшыня ГП БГКТ, выказаў сваю пазіцыю наконт падзей у нашым грамадстве і яго арганізацыйным жыцці. Ну што ж, кожны мае права выказаць свае думкі на старонках „Нівы" (і ў тым яе спецыфіка), але калі за змешчанымі там словамі ідуць фальшывыя сцверджанні, то гэта, здаецца, дрэнна сведчыць пра аўтара такіх радкоў.

Ян Сычэўскі піша, што з майго — старшыні Беларускага саюза — боку ніякіх прапаноў размоў не было і няма ўвогуле ніякай справы стварэння Праграмнай рады Цэнтра беларускай культуры. У сувязі з такімі сцверджаннямі хачу спадару Сычэўскаму і Галоўнаму праўленню БГКТ (якое, мабыць, не ведае ўзніклай сітуацыі) прыпомніць некалькі фактаў. Спадар Сычэўскі любіць паперу і дакументы; я таксама прыхільнік ашчаднасці паперы і захоўвання дакументаў, дык буду імі тут падпірацца.

Па-першае: ініцыятыва сустрэчы з кіраўніцтвам Таварыства выйшла з майго боку яшчэ ў пачатку канфлікту ГП БГКТ з уладамі горада за будынак на вуліцы Варшаўскай 11. У адзін дзень, 1 лютага гэтага года, адбываліся сходы ГП БГКТ і Беларускага саюза. Спадаром Кастусём Майсенем перадаў я, што бачу неабходнай сустрэчу, каб абмеркаваць супольную пазіцыю. Прапанова засталася без водгуку, хаця падчас сходу званіў я на вуліцу Варшаўскую.

Нягледзячы на такое стаўленне, Беларускі саюз даў сваю афіцыйную падтрымку ў справе памяшкання на Варшаўскай 11 і выказаўся за тое, каб засталося яно ў беларускіх руках. Заява ад 1 лютага была перададзена гарадскім уладам. Прыводжу яе поўнасцю: „Białorusini, obywatele Rzeczypospolitej, w wyniku procesów demokratyzacyjnych otrzymali szerokie możliwości działalności organizacyjnej, lecz w wyniku trudności finansowych i lokalowych żadna z organizacji nie może spełniać swoich zadań statutowych. Zamiar pozbawienia Białorusinów przez władze miasta Białegostoku ostatniego lokalu, w którym prowadzona była działalność kulturalna, wywołuje nasz niepokój o przyszłość białoruskiej mniejszości narodowej w Polsce. Stoimy na stanowisku, że budynek przy ul. Warszawskiej 11 powinien w dalszym ciągu służyć Białorusinom Białegostoku jako ośrodek kultury narodowej. Przewodniczący Związku Białoruskiego w RP".

Далей, пасля першай сустрэчы ва Управе горада, 3 лютага, калі я папрасіў старшыню Сычэўскага спаткацца, ён проста знікнуў. І тады, у той самы вечар, я асабіста, у прысутнасці між іншым спадара Антона Міранавіча, пайшоў у сядзібу Таварыства, дзе ўдалося нарэшце дагаварыцца на сустрэчу. Тэрмін рабочага спаткання быў назначаны на дзень 8 лютага. Усе прапановы Беларускага саюза ў сувязі з гэтай справай склаў я ў форме афіцыйнага ліста на рукі старшыні ГП БГКТ. Прэзідыум ГП БГКТ таксама збіраўся ў дзень 8 лютага. Ці мой ліст разглядаўся ўладамі Таварыства, гэтага мне не ведаць (копія ліста ў архіве БС).

У выніку размоў, якія адбыліся 8 лютага між дэлегацыяй Беларускага саюза і спадаром Сычэўскім, была дасягнута дамоўленасць наконт стварэння Праграмнай рады Цэнтра беларускай культуры, у якую ўвойдуць па адным прадстаўніку ад кожнай арганізацыі. Сыходзячы з гэтага пагаднення, яшчэ ў той самы дзень Беларускі саюз накіраваў ва Управу горада ліст, у якім, між іншым, напісана: „W wyniku porozumienia zawartego 8.02 br. pomiędzy przewodniczącym Związku i przewodniczącym Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego zostanie powołana Rada Programowa Centrum Kultury Białoruskiej w Polsce z siedzibą przy ul. Warszawskiej 11 w Białymstoku. Radę będą tworzyć przedstawiciele wszystkich organizacji białoruskich na terenie kraju. Aktualny stan budynku uniemożliwia jednak realizację koncepcji programowych CKB. Do czasu przeprowadzenia niezbędnej w tym celu modernizacji budynku możliwe jest prowadzenie jedynie takich form działalności, które realizowane są przez BTSK"... Ліст падпісалі старшыні арганізацыяў Беларускага саюза. Далей у лісце мы звярнуліся з просьбай пашырыць магчымасці выдавецкай базы на вул. Сураскай 1. Так што з боку Беларускага саюза ніхто не хацеў займаць сядзібу Таварыства.

За справу арганізавання Праграмнай рады, згодна з нашым пагадненнем, меў адказваць спадар Сычэўскі. Аднак дадзеное слова ў гэтым выпадку нічога не значыла. За ім не пайшлі хаця б найменшыя дзеянні. Я цярпліва чакаў на ход справы (прызнаюся ў сваёй наіўнасці, бо верыў у нешта такое, як слова старшыні Таварыства), але калі ўсё заглохла, 12 мая яшчэ раз выступіў да спадара Сычэўскага з пісьмом наступнага зместу: „Згодна з нашымі пастановамі з лютага г.г. прашу адэлегаваць прадстаўніка Вашай арганізацыі ў склад Праграмнай рады Цэнтра беларускай культуры. Прашу таксама запрапанаваць тэрмін і месца арганізацыйнага сходу, на якім афіцыйна будзе створана Праграмная рада ЦБК. У гэтай справе можна кантактавацца са сп. Юрым Хмялеўскім (тэл. у „Часопісе": 42-11-05)".

На адказ чакаю па сённяшні дзень.

**Яўген Вапа**

*САКРАТ ЯНОВІЧ*

# Канец купалаўскай уяве нацыі

*(заканчэнне; пачатак у папярэднім нумары)*

Прычыны таго, чаму ясны сон пра Беларусь так і застаўся адно сном, прычым небяспечным з часам, цалкам банальна тлумачыцца самою натурай Савецкага Саюза. Дамінавала ў ім, як ва ўсякай імперыі, тэндэнцыя этнічнай уніфармізацыі, ад тысячагоддзяў вядомая утопія цывілізацыйна-прасторавай нівеляцыі і псіха-культуралагічнага маналіту. Тым часам нацыі нараджаюцца не па фанабэрыі паэтаў або ідэолагаў. Яны — няўхільны вынік асобнасці лёсу, які не паддаецца аніякаму тэрору. Фізічнае зніштажэнне нацыястваральнай праслойкі можа прынесці злачынным ініцыятарам не болей, чымсьці духоўную метысізацыю этнасу, моўную асіміляцыю, але ніколі глынанне тэрытарыяльнага грамадства. Чаму? Адказ увачавідкі: імперскі цэнтр мусіў бы тады падзяліцца сваім дабрабытам аднолькава ў карысць унутраных калоніяў, што непазбежна паставіла б крыж на цэментуючай ролі самое метраполіі. Не кажучы ўжо пра практычную нерэальнасць таго. У гэтым і адвечная тайніца-нетайніца нежыццяздольнасці тых трэціх-пятых Рымаў, іх немінучага распаду ў выспяванне „канфлікту хлеба" між цэнтрам, менавіта, і эмансіпацыйна зарыентаванымі перыферыямі. Не здараецца тое раней, усё ж, за чарговую рэвалюцыю ў вытворчасці, тэхналагічную, якая абавязкова парушае ўстаялыя парадкі, дэцэнтралізуе і разладжвае структуры іх, эканамічна аўтанамізуючы шанцы правінцыі на незалежнае развіццё. Калі раб, зменены ў прыгоннага халопа, паказаў сябе прадуктыўнейшым, упаў антычны Рым як адзіны распараднік багацця; з'яўленне наёмнай працы прадвырашала далейшы прагрэс, ушыркі немагчымы без абароны яго новымі дзяржаўнымі ўтварэннямі на занядбаных іншародных ускраінах... Цывілізацыйная анахранічнасць Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублікаў закладзена не столькі ў спробе ўжыццяўлення старога, як сам свет, міфу Раю на Зямлі, колькі якраз у зрыве ім кантакту з сусветнай эканомікай, што і адштурхнула СССР у маргінальнасць. У рэцыдыў проста неафеадальных суадносінаў, у персанальную і духоўную паднявольнасць. Мілітарызацыя гаспадаркі, без чаго Саюз пратрымаўся б усяго гістарычнае імгненне, заўсёды прарочыць у будучым ляскатлівую катастрофу і працяглы пасля яе хаос. Дарэчы будзе тут заўважыць між іншага, што ў пасляіндустрыяльную эпоху і паступовую ў ёй аўтаматызацыю працы ды мінімалізацыю патрэбы ў простым высілку чалавечых рук, таксама рэдукцыю да мінімуму сыравіны, калоніі перастаюць быць крыніцай багацця і пачынаюць абцяжарваць цэнтральны бюджэт хуткім дэфіцытам, што і з'явілася галоўным стымулам імклівага дэмантажу, скажам, Брытанскай імперыі. Партугальская, як прымітыўнейшая, пратрымалася даўжэй, мала менш за расейскую.

Ні Купала, ні карыфеі тэорыі тае эпохі не ў стане былі прадбачыць непраўдападобна раптоўнае знікненне сялянства, у тэмпах запланаванага генацыду. У бандыцкім дзеянні няма логікі. Само земляробства, вядома, падлягае тым жа законам рынку, што і ўсякая іншая таварная вытворчасць, і таму вёска як постфеадальная структура гаспадаркі непазбежна раствараецца ў агульнанацыянальнай сістэме, якой дастаткова некалькіх працэнтаў фермераў у супастаўленні з цэлай папуляцыяй насельніцтва ў дзяржаве. На Захадзе гэты працэс элімінацыі вёскі і пераход у цывілізацыю горада і поля адбываўся стагоддзямі. У нацыянальна-духоўным станаўленні Беларусі той жа фактар працяглай гарадызацыі, не гвалтоўнай, меў бы не толькі капітальнае, але проста выратавальнае значэнне! Шматлюдная вёска ў ёй уяўляла сабою адзіна істотнае апірышча дзеля выспявання нацыі, без фіналізацыі якое пераважаючы ў пашырэнні гарадоў сялянскі кампанент не змог адыграць прыналежнай яму ролі беларускага гегемона. Мешчанін--асімілянт і мужык-абарыген, гэта нават і не партнёры ў культурнай канфрантацыі. За першым з іх высілася тая-другая вялікая культура каланізатараў, а за другім — безамбітная, вульгарная мімікрыя дзеля біялагічнага ўсяго толькі выратавання. Што можа прэзентаваць сабою прасцяк? Жаданне зарабіць на міску стравы, і дамагчыся сабе кут на логава. Нацыянальнасць яму лішняя, на хлеб яе не намажаш!

Мала сказаць, што канец купалаўскай уяве нацыі паклала калектывізацыя. Кааператыўную апрацоўку зямлі не Масква здумала, а пераняла тое ад Захаду, як і камунізм, зрэшты, ды на свой лад тупа дэфармавала, не дарosшы да займелых ідэй. Савецкі калектывізм тым і жахлівы, што пазбавіў селяніна пачуцця гаспадара і партнёра іншым, вярнуў яго назад у паншчыну, і то паводле сумна вядомай мікалаеўскай пары. Гэта і размыла грунт пад беларускім нацыянальным рухам, а саму беларушчыну пераўтварыла ў дэкаратыўны вазон на чырвонасуконным стале нежартоўнага прэзідыума, абранага не іначай як пад бурлівыя і доўгія, вельмі доўга і спалохана не ціхнучыя, пераходзячыя ў аглушальную авацыю апладысменты, у апагей якіх усе схопліваліся, бы апараныя, са сваіх табурэтак і крэслаў, а затым нема енчылі „уррр-ааа"!!! Оруэлаўскі фальварак звяроў.

Канцэпцыю — у перспектыве — савецкай нацыі на базе расейскай культурнасці амаль цалкам рэалізавана адно ў Беларусі. Адкуль узяўся тут гэткі, незразумелы ў Еўропе, энтузіязм ажно датэрмінова выканаць указы абяцальнікаў камуністычнай дарэмшчыны? Справа выглядае складана, але такою яна не ёсць. Правёўшы чыста тактычны па сутнасці эпізод т.зв. беларусізацыі, да голасу зноў дапушчана небеларускае гарадское асяроддзе, якое ніколі не паводзіла сябе інакш як пятая калона расейскага імперыялізму. Акаляючае яго гарадызаванае сялянства (бяздольныя мігранты) пачувалася шчаслівым у індустрыяльным паратунку сабе, уцёкамі ад калгаснага ярма, і кіравалася яно, ясная справа, не сэрцам, але страўнікам. Гэтыя людзі-жываты, нагаладаўшыся, нічога не бачылі далей канца свайго носа. Гэта не была нацыя, а толькі яшчэ матэрыял на яе.

Калі сённячы я чую, што, бадай, усяго тры працэнты ад цэлае папуляцыі пашпартных беларусаў кваліфікуецца ў паняцце нацыі, дык гэта стан татальнае катастрофы! Беларусы, значыць, зрабіліся невялічкай, чвэрцьмільённай, меншыняю ў сваім айчынным доме. На такі эфект задзейнічалі два, смертаносныя нам, фактары: расейскі шавінізм — паводле прызнання нават Леніна, самы лайдацкі ў свеце, — і бальшавізм, з яго люмпенскай грамадскай базаю, зарыентаваны на зніштажэнне працы і чалавечнасці ў чалавеку, што канкрэтна спраўдзілася ў генацыдзе заможных слаёў, у іх ліку і сялянства, падставы нашай этнічнасці. У гэтых абцугах, жахліва варварскіх, і жыў Янка Купала, няўмела спрабаваўшы адысці на той свет (яму дапамаглі як быццам учыніць тое ў Маскве сорак другога года мяснікі з тайных службаў). Купала заўсёды ўяўляў сабою прыкрую савецкім уладам праблему, як і сама беларуская літаратура, прайшоўшая з нашаніўскае пары. Трэба сказаць, што ажно да цяперашніх часоў прынцыповы з ёю клопат: мара афіцыйнага Менску — пераўтварыць яе, перарадзіць у заходнерасейскі варыянт, у плане „западноруссизма", што перфектыўна ўдалося з дурным народам.

Мяне як польскага беларуса, які пражывае сярод больш-менш нармальнай еўрапейскай нацыі, даводзіць да ціхае роспачы настойлівае імкненне кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь яшчэ мацней працягваць палітыку раствярэння дзяржавы, цынічна пакарыстаўшыся паруселым электаратам. Ну добра, думаю сабе, няхай удасца вам, беларускім саветам, выкрасліць Беларусь з палітычнай карты свету, прынізіць яе да „западнорусской" правінцыі, забіўшы ў ёй і тыя рэшткі пачуцця нацыянальнай арыгінальнасці, непаўторнасці і адчування ўласнага кавалка хлеба, перавёўшы ўсіх на федэральны паёк... А што будзе далей? — ад гэткага пытання ніхто не выкруціўся. Шчасце ўсенароднае настане?

Спачуваю я самагубцам, і тым, хто на чужы стол разяўляецца. Але, вось, як быць тады ўладам з беларускай літаратурай або, хаця б, з той бунтоўнай спадчынай Янкі Купалы?! — амаль гамлетаўскае пытанне: быць Беларусі ці не быць, а калі не быць, то як не быць?! У чорны трыццаць сёмы ўсенька вырашалася з дзікай прастатою: у лоб і ў пясок! Даведзена да такога ўжо стану, што беларускамоўная кніжка цікавіць чытача інцыдэнтальна, пакалекцыянерску, і, натуральна, не можа яе выдавец разлічваць на прыбытковасць. Масавы „трасяннік" не пэцкае ёю сабе пальцаў... Ды аўтараў чамусь не меншае ў гэтай дзіўнай з дзіўных у Еўропе літаратур?

Такія, вось, здабыткі ў культуры нашай пакінула па сабе дзівосная сваім анахранізмам цывілізацыя сярпа і молата, якая ўсё яшчэ б'е хвасціскам, бы той канаючы на мелі кіт.

*Крынкі, кастрычнік 1995 г.*

*Віктар Ярмалковіч*

# На жыццёвых хвалях

*(працяг; пачатак у 41 н-ры)*

## У валасным арышце

Ад хаты да Вільні ўсяго 35 кіламетраў. З Тургель хадзіла ўжо машына, якая забірала малако і заадно пасажыраў у Вільню. Туды накіраваўся і я.

З хаты выйшаў я рана, захапіўшы з сабою буханку хлеба і кавалак мяса, бо ў горадзе з гэтым было цяжка. Сонца паднялося ўжо даволі высока, калі дабраўся я ў мястэчка. Быў якраз кірмашовы дзень. Адусюль сходзіліся і з'язджаліся на рынак людзі.

Пры ўваходзе ў мястэчка стаяла група савецкіх салдат, чалавек восем—дзесяць, а каля іх — літоўскі паліцыянт з аўтаматам і паштальён з Лайбішак. Не ведаю, ці гэта той паштальён указаў на мяне, ці можа неяк інакш сталася, але паліцыянт загадаў мне затрымацца. Такім чынам я апынуўся ў групе савецкіх салдат.

Тое, што мяне могуць арыштаваць, не было для мяне нечаканасцю, але што я сам улезу душагубам проста ў лапы, гэтага не мог сабе даравацъ.

Па нейкім часе мяне адлучылі ад групы савецкіх салдат. На паліцэйскім пастарунку адабралі ў мяне ўсё, што я меў. Каменданта тады яшчэ не было. Я чакаў з надзеяй, што ён мне дапаможа. Камендант працаваў тут раней і добра ведаў маіх братоў і нашу сям'ю. Аднак атрымалася іначай. Не адазваўся ён да мяне ані словам, а толькі дастаў рэвальвер, тыцнуў ім у маю спіну і загадаў ісці. І так праз усё мястэчка, пры зборышчы народу, павёў мяне ў арышт як нейкага бандыта.

Валасны арышт у Тургелях быў больш падобны на звычайную вясковую лазню, чым на турэмную камеру. Пабудаваны быў ён з круглякоў і, як у лазні, былі ў ім лавы-нары. Усярэдзіне было цемнавата і брудна.

У арышце сядзеў ужо мужчына ва ўзросце 40—50 гадоў. Не мог ён знайсці сабе месца, віўся на нарах, енчыў, стагнаў. Аказалася, што ўся яго віна заключалася ў тым, што быў ён старшынёю сельсвaета, здаецца, у Курмялянах.

Моўчкі і бяздарна ляжаў я на лаве. Невясёлыя думкі кружыліся ў галаве. Да былога старшыні сельсавета на бачанне дапусцілі жонку. „Ты, — праз дзірку ў дзвярах шаптала яна мужу, — камендант гаварыў, што цябе пусцяць, але гэтага пракурора то расстраляюць".

Не такая, відаць, суджана была мне доля. Выйшаў жывы. Забразгаталі ключы, увайшоў паліцыянт, назваў маё прозвішча і спытаў: „Куды пойдзеш?" — „У Вільню", — здзіўлена, без веры ў здзяйсненне гэтых слоў, адказаў я. Паліцыянт аддаў мне мае рэчы і сказаў, што затрымалі яны кнігу аб Картуз-Бярозе. Гаварыў ён яшчэ штосьці аб прапісцы, а я падтакваў і думаў толькі аб адным: як хутчэй выйсці адсюль. Разам са мною выйшаў і старшыня сельсавета.

Уся ўлада ў той час была ў руках літоўцаў. Многія з іх ведалі нашу сям'ю і былі прыяцелямі. Пасля майго арышту знаёмыя паліцыянты заступіліся за мною. Не ведаю іх прозвішчаў ні званняў, але гэта ў значнай ступені дзякуючы ім астаўся я ў жывых.

Вярнуўся я зноў дахаты, пераначаваў і зноў падаўся ў Вільню. Цяпер не пайшоў я на Тургелі, а толькі направіўся на г.зв. „чорны тракт".

Работы не меў я і ў Вільні. Не было таксама за што жыць. Ездзіў я на пасылках, наведваў знаёмых. Так прабадзяўся ўсё лета. Восенню дайшлі да мяне чуткі, што патрабуюцца работнікі для краёвай адміністрацыі ў Лідзе. Была нагода дастаць работу і неяк уладкавацца. Паехаў.

## У Лідзе

Гарадскую ўправу ў Лідзе зараз жа пасля прыходу немцаў арганізавалі палякі. Службовай мовай зрабілі яны польскую. Узорам для арганізатараў новых уладаў з'яўляўся адміністрацыйны польскі парадак, які існаваў тут да вайны 1939 года. На беларускіх землях выглядала гэта на нейкую другую ступень акупацыі пасля немцаў.

У арганізацыі краёвай адміністрацыі мяне як юрыста, па патрабаванні беларусаў, назначылі намеснікам бурмістра. На практыцы нічога гэта нікому не давала. Усімі справамі ў далейшым кіраваў бурмістр Касоўскі. Я застаўся ўбаку і ўсё ішло па-старому.

Па нейкім часе Касоўскага замяніў Баярчык, а пасаду намесніка зусім скасавалі. Я стаў усяго радавым работнікам гарадской управы, да таго польскай управы на беларускіх землях.

У той час у горадзе было многа беспрацоўных, галоўным чынам беларусаў. Звярталіся яны да мяне з просьбамі даць ім работу або аказаць дапамогу, але ні ў чым не мог я ім дапамагчы. Крыва глядзелі на мяне палякі, бо не лічылі мяне сваім, незадаволенай была частка мясцовага насельніцтва, бо нямнога мог я для іх зрабіць.

Немцы глядзелі на гарадскую ўправу не як на орган мясцовага парадку, але як на зборышча іхных слугаў. Пазнаёміўшыся з такім палажэннем, зразумеў я, што не для мяне там месца. І калі вясною пачало ствapацца краёвае судаводства, туды пайшоў і я.

*(працяг будзе)*

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



# У Старым Корніне

— Вершы Віктара Шведа захапляюць дзяцей. Гэта наш любімы паэт, — гаворыць Васіль Сегень, настаўнік беларускай мовы са Старога Корніна. Пра гэта сведчаць не толькі словы настаўніка, але і тое, што ажно пяць асоб падабралі вершы гэтага паэта на дэкламатарскі конкурс.

У Старым Корніне многа паклоннікаў прыгожага слова. Адсюль жа лаўрэатка Цэнтральнага дэкламатарскага конкурсу Ганна Сурэль, дэкламаркі Агнешка Галімская, Эля Шварц.

* * *

Насупраць школы знаходзіцца жамчужына падляшскага дойлідства, драўляная царква з вялікай званіцай. Абедзве будоўлі размаляваныя на блакітны колер.

У задбанай, адбудаванай і вялікай вёсцы — невялікая школа.

— Усё ж цяжка згадаць ці школа перапрывае, — гаворыць дырэктар Вера Баравік.

Зараз у Старым Корніне амаль 50 вучняў.

— У вёсцы ёсць яшчэ малыя дзеці, а праз год у нулявы клас прыйдзе адзінаццаць дашкольнікаў, — гавораць настаўнікі.

У школе апрача мясцовых вучацца таксама дзеці з Ягаднік і Крывяціч.

* * *

„Зоркі" не было тут даўно-даўно. Да гэтага ж дзеці не падпісваліся на нашу газету. Таму нашая сустрэча мела за мэту перш за ўсё пазнаёміцца са школьнікамі.

У школе многа цікавых вучняў. У VIII класе толькі 6 дзяўчат і ўсе яны паклонніцы тэатральнай справы.

— І хаця сярод іх няма хлопцаў, мужчынскія ролі ў іх выкананні атрымаліся выдатныя, — хваліць прыгажунь Васіль Сегень.

— Нашая Мажэна так іграе хлопцаў, што не адзін мужчына ёй бы пазайздросціў, — гавораць дзяўчаты з VIII класа.

— Усе яны думаюць прадаўжаць адукацыю ў сярэдніх школах Бельска і Гайнаўкі. Але пакуль што рыхтуюць на ёлку п'ссу. Агнешка Божка, Аліцыя Гаўрылюк, Крыся Тамашук, Уля Васілюк, Мажэна Масальская і Эля Шварц добра гуляюць, рыхтуючы спектаклі на беларускай мове.

— У школе так прынята, — гаворыць Васіль Сегень, — што многа рэпертуару рыхтуем якраз на беларускай мове.

Не менш цікавым было знаёмства з VII класам. У ім пераважаюць дэкламаткі і вышэйзгаданыя лаўрэаткі.

Пазней я мела гонар сустрэцца з дзецьмі ад I па VI клас. Праўда, вучні нянадта смела ставілі мне пытанні, але паабяцалі пісаць у „Зорку" і прымаць удзел ва ўсякіх конкурсах. Сярод іх многа выдатнікаў, у тым ліку і нашая карэспандэнтка Анелька Гаўрылюк з V класа. Але пра выдатнікаў, карэспандэнтку і малодшыя класы напішам у наступных нумарах „Зоркі".

**Ганна Кандрацюк**
**Фота аўтара**



*Васьмікласніцы і настаўнік беларускай мовы Васіль Сегень.*



*Вершы Віктара Шведа*

## Святы спакой

Пры тэлевізары заселі
Ізноў усёй сям'ёй.
— Прад тэлебачаннем што людзі мелі?
Скажы мне, татка мой.

— Прад тэлевізарам мы час марудзім
Штодня да нематы.
Прад тэлебачаннем дык мелі людзі
Спакой святы.

## Ці паходзім мы ад малпы?

— Ці праўда, дзедка, запытаў Валодзя,
Што быццам людзі ад малпы
паходзяць?
— Дык так сцвярджаюць нам усе
навукі, —
Дзед адказаў цікаўнейшаму ўнуку.

— Калі было ў сапраўднасці так, дзедка,
Скажы, хто гэтаму быць можа сведкай?
Скажы, як называўся той спрадвеку,
Які заўважыў, што стаў чалавекам?

## Калі дарасце наш тата?

— Ці гэта праўда, мама дарагая, —
Пачула раптам маці ад Адама, —
Што чалавек, які ўжо дарастае,
Не мусіць аб усім пытацца мамы?

— Дык гэта праўда, дарагі сыночак,
Калі дарослым будзеш і жанатым.
— А ці магла б ты, мама, мне
прарочыць,
Калі ўжо дарасце наш мілы тата?



*Малюнак Анэты Ляўчук, вучаніцы VI класа з Орлі.*




### Дарагая „Зорка"!

Мяне завуць Аня Кіцаль. Я вучаніца VIII класа Пачатковай школы ў Новым Корніне.

19 кастрычніка 1995 года вучні нашай школы ездзілі ў Варшаву. Глядзелі мы многія аб'екты і розныя месцы ў сталіцы Польшчы. Спачатку наведалі мы заапарк, дзе пабачылі многа звяроў. Потым паехалі на *Старэ Място*, дзе наведалі Каралеўскі замак і шпацыравалі па рынку старога горада. Наступным этапам нашай экскурсіі быў Палац культуры і навукі. З трыццаць першага паверха мы глядзелі панараму Варшавы.

Далей мы паехалі ў аэрапорт Акэнце. Там мы бачылі пасажырскія самалёты. Адны з іх адляталі, другія прызямляліся.

На канец мы заехалі ў парк Лазенкі дзе доўга шпацыравалі.

Мне вельмі падабалася гэта экскурсія. Папоўніла я свае веды па гісторыі і геаграфіі. Кожны з нас прывёз нейкую памятку: этыкеткі з гербам сталіцы, паштоўкі і іншыя рэчы.

**Аня**

Талон "Зоркі" н-р 8
26.11.1995

# Як мужык ваўка ратаваў

*(беларуская народная казка)*

Ішоў мужык лесам, з мяшком за плячыма. Бяжыць воўк, а за ім паляўнічыя. Воўк просіцца:

— Дзядзька, схавайце мяне, а то па жыцці будзе.

— Лезь, хутка ў мяшок, — паклапаціўся мужык, схаваў ваўка і сеў на ім.

Тут і паляўнічыя прыбеглі і пытаюцца:

— А ваўчыска, дзядзька, не бачылі?

— А мае браточкі, пабег толькі што, вунь, у кусты.

Паляўнічыя паслухалі мужыка і пабеглі ў кусты, а дзядзька развязаў мяшок і выпусціў ваўка. А воўк распрастаўся, скрыгануў зубамі і кажа:

— Хоць ты мяне і выратаваў ад смерці, я цябе з'ем.

— А мужык на тое:

— Добра, еш браток, але давай яшчэ папытаем у некага ці ты добра зробіш.

— Ну, добра, — згадзіўся воўк і пайшлі шукаць некага жывога.

Бяжыць заяц. Яго і пытаецца мужык:

— Ці добра гэта заяц будзе, што я ваўка ўратаваў ад смерці, а ён хоча мяне з'есці?

— Добра, — сказаў заяц і пабег.

— Хадзем яшчэ, можа некага большага сустрэнем, а то заяц малы і розум такі ж мае, — намаўляе мужык ваўка.

— Добра, — згадзіўся воўк.

Бяжыць лісічка, мужык і кажа:

— Лісічка-сястрычка, ці гэта добра, што я ваўка ад смерці ўратаваў, а ён хоча мяне з'есці?

— Не паверу ў такое, што воўк у мяшок палез, — гаворыць лісіца.

— Не верыш, — пакрыўдзіўся воўк, — а вось, паглядзі, я зараз зноў схаваюся. Трымай мех, — кажа воўк дзеду.

Мужык растапырыў мяшок і воўк туды палез. Тады лісіца гаворыць:

— Ну, дзядзька, завязвайце. Цяпер бярыце тычыну і лупіце па мяху.

Мужык за такую раду падарыў лісіцы тоўстую курыцу. І ўжо ніколі ваўкоў не слухаў.

**А. А.**

# Заўтра яны будуць студэнтамі

Гэтыя дзяўчаткі, якіх вы бачыце на першым плане, з'яўляюцца вучаніцамі чацвёртых класаў Бельскага беларускага ліцэя імя Браніслава Тарашкевіча. Вось тут, у школьнай спартыўнай зале, сабраліся яны, каб пагутарыць з прадстаўнікамі Міністэрства адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь наконт вучобы ў беларускіх вышэйшых навучальных установах.

Куды пайсці вучыцца? Якія ўмовы прыёму? Ці плацяць стыпендыю?

— У мінулым годзе ў Мінску вучылася з Бельска 11 асоб на розных напрамках, — сказаў Генадзь Пяцігор, галоўны інспектар міністэрства па міжнародных сувязях. — Замежныя студэнты наогул вучацца ў нас ужо дзесяткі гадоў. Цяпер узяты кірунак на Беласточчыну. Мы зацікаўлены, каб вы ішлі вучыцца на беларускія напрамкі, але большасць з вас выбірае медыцынскі інстытут, акадэмію фізічнага выхавання, музычную, эканамічную і мастацкую акадэміі.

На некаторыя напрамкі трэба здаваць экзамены — на медыцыну (тэсты), музыку, мастацтва. На іншыя — дастаткова не мець троек у атэстаце сталасці, каб былі толькі чацвёркі і пяцёркі.

Калі паступаюць вучыцца беларусы з замежжа, яны нічога не плацяць (як іншыя замежныя студэнты), а яшчэ ім плацяць стыпендыю, як і ўсім беларускім студэнтам.

Кепска дзеецца, калі нехта заказа месца і не прыедзе, або год правучыцца і вяртаецца дамоў, дзе прадаўжае навуку. Застаецца пустое месца, якое мог бы заняць іншы беларускі студэнт. Таму справу паступлення трэба глыбока прадумаць.

Слухалі пра ўсё гэта вучні з Бельска ўважліва. Заўтра яны будуць студэнтамі, бо для нікога не сакрэт, што больш васьмідзесяці працэнтаў выпускнікоў гэтага ліцэя паступае ў вышэйшыя школы.

**Ада Чачуга**
**Фота аўтара**

# Польска-беларуская панарамная крыжаванка н-р 8

Запоўніце клеткі беларускімі словамі паводле значэнняў, што на польскай мове. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) дашліце ў „Зорку" на працягу 2 тыдняў. Сярод аўтараў правільных адказаў разыграем узнагароды.

**Адказ на крыжаванку н-р 4:** сава, мур, ружа, хамут, вуж, баран.

Узнагароды — пахучыя фламастэры — выйгралі:
1) **Юстына Кулачэўская**, вучаніца кл. III „ц" ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім,
2) **Марцін Тапалеўскі** з Кленік,
3) **Аня Саеўская** з Кленік,
4) **Аня Кіцаль** з Трывежы.
Віншуем!

### Рашэнне штомесячнага конкурсу для карэспандэнтаў „Зоркі"

Узнагароды — касеты гурту „Белы сон" — выйгралі:
1) **Жанэта Роля**, вучаніца кл. V „а" ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім,
2) **Анеля Гаўрылюк**, вуч. кл. V ПШ у Старым Корніне.

Пахучыя фламастэры атрымаюць:
1) **Ілёна Кубаеўская**, вуч. кл. VI ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім,
2) **Юліта Яканюк**, вуч. кл.VII ПШ у Орлі,
3) **Моніка Мельнік**, вуч. кл. V „е" ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім,
4) **Грыша Врублеўскі**, ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім.
Віншуем!

# Шаноўныя сябры!

Многія чытачы нашай старонкі прапануюць новую назву для „Зоркі", больш свойскую, дзіцячую, сугучную з беластоцка-беларускімі рэаліямі. Таму нашая рэдакцыя вырашыла пазнаёміцца з вашымі прапановамі. Прышліце, калі ласка, свае прапановы новай назвы і малюнка віньеткі.

Пераможцы атрымаюць каштоўныя ўзнагароды — фотаапараты вядомай фірмы „Kodak". На вашыя прапановы чакаем да канца 1995 года.

**Ганна Кандрацюк**

# Як будавалі дом нашыя продкі?

Пабудова хаты мела так вялікае значэнне, што для гэтага была прыдумана складаная сістэма абрадаў.

Будаўніцтва пачыналася з выбару месца і матэрыялаў. Дрэва на будоўлю трэба было ссякаць тады, калі месяц знаходзіцца ў сваёй апошняй квадры („ветаху"), тады яно будзе трывалае. А ссечанае ў маладзік (першая квадра месяца) нядоўга паслужыць, спілаванае паміж квадрамі сточыць шашаль. Людзі меркавалі, што нельга на пабудову браць вывернутае ветрам дрэва, бо яго для сябе чорт вывярнуў і разам з дрэвам можа перанесціся ў новую хату. Таксама нельга было ўжываць тое дрэва, што завісла на другім, бо хутка такі будынак згарыць. Не падыходзіла і рыплівае дрэва, бо ў збудаванай з яго хаце людзі могуць часта паміраць ці заходзіцца ад кашлю. Таксама адкідалі і такое дрэва, што ссечанае валілася на поўнач, бо гэта прадказвала, што ў хаце памруць людзі, а ў хляве — жывёла. Найбольш спрыяльнымі для падрыхтоўкі драўніны лічыліся сакавік і красавік, таму што веснавы сок рабіў дрэва мацнейшым.

Вельмі важна было правільна нарыхтаваць мох: гаспадар мусіў пайсці ў панядзелак у лес, наскубці вялікую жменю моху і пакласці на чыстай зямлі. Тое ж самае і ў аўторак, сераду і г.д. У нядзелю падымаў кожную кучку, глядзеў пад якой не было мошак і чарвякоў. Толькі ў такі дзень тыдня, калі нарваная была гэтая кучка, можна было рыхтаваць мох для будаўніцтва. Дзякуючы гэтай практыцы ў хаце не мела быць казюрак, тараканаў.

На падмурак нельга было браць каменне з могілак, бо ўвесь час будуць непрыемнасці. Пільнавалі, каб на будоўлю не трапіла дрэва з „ваўком", г.зн. з чорнай сарцавінай, бо сям'ю будуць спасцігаць хваробы і няшчасці. На Беларусі існавала многа спосабаў, магічных практык, якімі карысталіся продкі пры выбары месца пад хату. Калі ўжо спадабалі нейкі кут, ставілі на тым месцы чыгунок з павуком: калі за ноч ён пачынаў ткаць павуцінне, то лічылася, што месца пад хату добрае. Або ў выкапанай ямцы ставілі на ноч гаршчок з мёдам — калі раніцай насходзілі там мурашы, месца лічылася ўдалым.

Існавала перакананне, што хату нельга будаваць на спрэчнай дзялянцы зямлі, бо будуць накліканы праклёны таго, хто прайграў у спрэчцы. Ніколі не ставілі хату там, дзе былі знойдзеныя чалавечыя косці, а таксама там, дзе хто-небудзь пасек сякерай нагу ці руку, парэзаўся сярпом, касой, нажом.

Пасля ўсіх гэтых падрыхтоўчых прац за работу браліся цесляры. Пры заснаванні хаты быў звычай класці пад вугал манеты, кавалак хлеба ці сыру, часам галаву пеўня, што было ахвяраваннем дамавому (міфалагічнаму душку, апекуну).

Калі клалі вянец, то назіралі, куды паляціць першая трэска, а як паляціць у сярэдзіну чатырохвугольніка, будуць прыбыткі ў хаце.

Быў таксама звычай пад усе чатыры вуглы класці кавалак ладану, пасвячоныя зёлкі, ці хвойныя галіны, каб засцерагчы дом ад перуноў. Бытавала ўяўленне, што перуны праследуюць нячысцікаў, якія вядома ж, не стануць хавацца там, дзе ляжыць нешта свянцонае. Шмат павер'яў было звязаных з вянцом. Пры завяршэнні будовы гаспадар перакладаў праз апошні вянец асвячонае яйка, якое адразу закопвалі на месцы падзення, каб вецер не здзіраў страху. Пасля таго як на гарышчы быў высланы мох, па ім сеялі авёс і прысыпалі пяском. Авёс узыходзіў і паступова засыхаў, тым самым забяспечваючы багацце ў хаце.

**А. А.**
*(паводле кнігі Т. Кухаронак „Свой дварочак, як вяночак")*

### Конкурс!

Як вы ўяўляеце свой уласны дом, дом вашых мараў? Напішыце або намалюйце і працы дашліце ў „Зорку". Самыя цікавыя працы надрукуем, а аўтары возьмуць удзел у жараб'ёўцы цікавых узнагарод.

24 нядзеля пасля Пяцідзесятніцы

# Пра міласэрнасць самараніна

*(Лук., 10: 25-37)*

У 10-м раздзеле Евангелля паводле Лукі змешчана прытча пра міласэрнага самараніна. Хрыстос расказаў яе ў адказ на пытанне аднаго знаўцы закону: „А хто мой бліжні?" Па дарозе ў Ерыхон разбойнікі абрабавалі і збілі да паўсмерці аднаго чалавека. Ледзь жывога абыякава абмінулі яўрэйскія святар і левіт, хаця не маглі не ведаць закону, які рэкамендаваў літавацца нават над аслом ворага (2 Майс., 23: 4-5). Няшчасным чалавекам заняўся самаранін, прадстаўнік суседняга, пагарджанага яўрэямі, народу. Ён не пытаючыся, якой веры і нацыянальнасці пакалечаны разбойнікамі чалавек, заапекаваўся ім і паступіў больш высакародна за тых, хто павінен быў у першую чаргу даваць іншым добры прыклад.

Усім прысутным з іх зняважлівым стаўленнем да чужаземцаў стала ясна, што яны не выконваюць закону, на які спасылаюцца і што паводзіны паганца выкрываюць іх крывадушнасць і напышлівасць. У прытчы пацвярджалася агульная, евангельская праўда, што не павінна быць падзелаў і розніц паводле расы або веры, што „няма грэка ні яўрэя, вольнага і нявольніка". Усе людзі роўныя і заслугоўваюць на аднолькавую пашану.

Самаранін стаў сімвалам і сінонімам бескарыснай дапамогі бліжняму, усім пакрыўджаным і бедным. Некалі негрыцянскі дзеяч за раўнапраўе неграў Марцін Лютэр Кінг выказаў такую думку: „Справа не ў тым, каб увесь час выяўляць міласэрнасць самараніна, але каб ніхто нікога не збіваў і не рабаваў; каб дарога ў Ерыхон была бяспечнай". Інакш кажучы, ён быў прыхільнікам глабальнай бяспекі і справядлівасці. На жаль, на такую ідэальную сітуацыю прыйдзецца яшчэ доўга чакаць. Яе не загарантуе ніводная палітычная сістэма. Лозунг „Свабода, роўнасць, братэрства" гучыць прыгожа, аднак рэчаіснасць куды больш сумная за лозунгі. Патрэба дабрачыннасці, гэтак як у старажытнасці, назіраецца і ў наш час. На тратуарах і лаўках вялікіх гарадоў штодня паміраюць людзі. Гэта можа быць інфаркт або іншая прычына, аднак прахожыя пераважна спешна абмінаюць іх. Яны, бы евангельскія святар і левіт, не хочуць мець клопату, або для самаўспакаення палічаць чалавека п'яным. Ніхто не думае, што падобнае можа здарыцца з кожным, і тады такая нячуласць адпомсціцца на ім самім.

Падобным з'явам спрыяюць распаўсюджаныя стэрэатыпы і прадузятасці. Падзелы на „сваіх" і „чужых" праводзяцца паводле тых жа крытэрыяў, што і ў евангельскія часы: паводле любой іншасці, якая атаясамліваецца з „горшасцю". Увесь час людзі кагосці недалюбліваюць: калі не за колер скуры, дык знойдзецца сто іншых прычын для зняважлівасці і варожасці, а прынамсі для абыякавасці.

Перад вайной у вёсцы Збурач каля Бярэсця загарэлася хата, у якой знаходзілася трое дзяцей. З прысутных ніхто не асмеліўся ратаваць дзяцей, толькі маёр Шамота, які быў непадалёку ў гасцях, кінуўся ў агонь і выратаваў дзяцей, але яго самога прывалiла насмерць надпаленая бэлька.

У міжваенны перыяд у Чэхаславацкай галоўны рабін у Празе загадаў павесіць ва ўсіх бажніцах партрэт а. Аляксандра Опіца і штогод ушаноўваць яго памяць. Чым заслужыў гэты чалавек на такую пашану і прызнанне? У 1919 годзе, падчас баёў з венгерскімі бальшавікамі за Міхалаўцы, нейкая цывільная асоба застрэліла венгерскага жаўнера. Вайсковае камандаванне ўзамен вырашыла публічна расстраляць аднаго мясцовага жыхара. Жарабя ўпала на яўрэя Майсея Дэйча, бацьку шасцярых дзяцей. Даведаўшыся пра гэтае, мясцовы святар умаляў злітавацца над нявінным чалавекам. Калі ніякія просьбы не памаглі, а. Аляксандр папрасіў, каб яго расстралялі замест яўрэя. Гатоўнасць загінуць за іншага чалавека зрабіла на камандзірах такое ўражанне, што вызвалілі іх абодвух — яўрэя Дэйча і а. Аляксандра Опіца.

Не падлягае сумненню, што гэты славацкі святар знайшоў бы шэраг вытлумачэнняў, каб не зацікавіца лёсам чужога, хаця і нявіннага чалавека. Ён мог бы абмежавацца словамі спачування, якія нічога не каштуюць. Гэтак здарылася з епіскапам дэ Сэжурам, які збіраў дапамогу для беспрацоўных рабочых. Калі звярнуўся за дапамогай да аднаго багатага мешчаніна, той адказаў: „Разумею вашы добрыя памкненні, але ні ў чым не магу дапамагчы, бо якраз закупіў за 25 тысяч франкаў экзатычных раслін". Імкненне да змякчэння пакутаў або крыўды бліжняга мае аднак вартасць толькі тады, калі развязвае асноўную праблему. Творчы характар яго набывае праз уласную ахвяру і самаадрачэнне і ў гэтым уся сутнасць міласэрнасці.

Самаранін пашкадаваў няшчаснага чалавека і не абмінуў яго, спасылаючыся на свае перакананні. Евангелле і нам напамінае, што эгаізму нельга нічым апраўдаць і заклікае „ісці і рабіць гэтак".

**а. Канстанцін Бандарук**



*Званіца Прачысценскай царквы ў Бельску-Падляшскім.*
Мал. Б. Рудкоўскага

# Настаўніцкая нарада ў Нарве

8 лістапада г.г. у Пачатковай школе ў Нарве прайшла канферэнцыя настаўнікаў беларускай мовы. Нарада засяродзілася на дзвюх тэмах: узбагачэнне ўрокаў беларускай мовы ў пачатковых школах на элементы экалогіі (даклад Ніны Абрамюк „Ахова асяроддзя і цывілізацыйная пагроза") ды II прадметны конкурс па беларускай мове. У канферэнцыі прыняло ўдзел каля 20 настаўнікаў беларускай мовы з пачатковых школ Беласточчыны (усе жанчыны), метадыст беларускай мовы, візітатар, дырэктар Аб'яднання ўстаноў удасканальвання настаўнікаў у Беластоку Ян Зенюк, кіраўніцтва Беларускага грамадска-культурнага таварыства і дырэктар нарваўскай школы Аліна Асташэўская.

Метадыстам беларускай мовы да 31 жніўня г.г. была Валянціна Бабулевіч. Пасля яе два месяцы пасада гэтая заставалася вакантнай. З 1 лістапада г.г. метадыстам беларускай мовы была прызначана Ніна Абрамюк — настаўніца беларускай мовы ў Нарве. Пра гэты факт паведаміў у сваім уступным слове Ян Зенюк, жадаючы новаму метадысту поспеху і задавальнення ў выкананні новага абавязку. Ян Зенюк адвёў таксама шмат цёплых слоў нашай газеце, сцвярджаючы, што ў сітуацыі недахопу некаторых педагагічных матэрыялаў якраз „Ніва" можа адыграць істотную ролю ў працэсе навучання беларускай мове на Беласточчыне.

Тэмай дакладу Ніны Абрамюк было забруджанне біясферы і ўзровень радыяцыйнага фону. Дысцыпліны такія, як біялогія і хімія, — сцвердзіла Н. Абрамюк, — адводзяць шмат матэрыялу, які фармуе экалагічную арыентацыю вучня. Экалагічную тэму можна і трэба ажыццяўляць таксама на ўроках беларускай мовы. Дзіця павінна адчуваць, што яно частка прыроды. Вучню трэба не толькі прышчапляць пашану да прыроды, але вучыць яго назіраць за навакольным светам і пранікаць у яго тайны, — сцвердзіла новы метадыст беларускай мовы Ніна Абрамюк.

Прадметны конкурс па беларускай мове ў пачатковых школах дае вучню магчымасць паступіць без уступнага экзамену ў сярэднюю школу. Праводзіцца ён на трох узроўнях: школьным, раённым і ваяводскім. Кожны этап складаецца з пісьмовай працы і вуснага выказвання на зададзеную тэму. У чарговы этап спаборніцтва пераходзіць той удзельнік, які збярэ адпаведна высокі працэнт максімальнай колькасці балаў. Лаўрэатам прадметнага конкурсу па беларускай мове становіцца ўдзельнік спаборніцтва на ваяводскім узроўні, які збярэ прынамсі 80 працэнтаў усіх магчымых балаў. Калі ў лаўрэата таксама выдатныя ацэнкі па матэматыцы і польскай мове — перад ім свабодны ўступ у сярэднюю школу. Школьны этап конкурсу назначаны на 15 лістапада г.г., а раённы — на 13 студзеня 1996 года. Раённую камісію конкурсу ўзначальвае Валянціна Бабулевіч, а ваяводскую — Тамара Русачык, візітатар беларускай мовы.

Старшыня Галоўнага праўлення БГКТ Ян Сычэўскі паведаміў, што Міністэрства культуры і мастацтва адмовілася дафінансоўваць арганізаваныя Таварыствам дэкламатарскія конкурсы. Беларускае таварыства, — сказаў Я. Сычэўскі, — будзе аднак праводзіць свой конкурс надалей, бо ён з'яўляецца важкім стымулам навучання беларускай мовы на Беласточчыне. Старшыня ГП БГКТ сказаў таксама, што Таварыства штогод атрымлівае з Міністэрства адукацыі і навукі Беларусі інфармацыю, паводле якой студэнты з Беласточчыны адмаўляюцца вывучаць беларускую мову ў вучэльнях Беларусі.

У справе дэкламатарскага конкурсу ўзнікла дыскусія. Ніна Абрамюк паставіла пытанне, ці пасля школьных элімінацый праводзіць таксама гмінныя. Праблема вось у чым: у гміне, дзе некалькі школ, у гмінных элімінацыях конкурсу вельмі часта прападаюць вучні лепшыя за тых, якія прыязджаюць на цэнтральны агляд са школ, дзе гмінных элімінацый няма. Другі аспект гэтага пытання такі, — гаварыла Н. Абрамюк, — што Нарва з'яўляецца польскамоўным асяроддзем, у сувязі з чым не вельмі тактычна адкідаць вучняў, якія ўвогуле хочуць прымаць удзел у беларускім конкурсе.

Я заўсёды стаю на баку дзяцей, — адказала на пытанне візітатар Т. Русачык. — Конкурс трэба так праводзіць, каб беларускасць у дзяцей засталася назаўсёды. Калі я дэкламавала фрагмент „Новай зямлі" у ГП БГКТ, — спадарыня Т. Русачык прыгадала тут свой удзел у дэкламатарскім конкурсе, — то кантакт з людзьмі беларускай культуры застаўся ўва мне назаўсёды. Рэпертуар вучню павінен падбіраць настаўнік, беручы пад увагу асобу дзіцяці. Твор павінен быць для яго зразумелы і займальны для камісіі. Школьныя элімінацыі праводзіць абавязкова, прыдаючы ёй ранг свята ў школе, а пра гмінныя — хай вырашаць самі настаўнікі.

На нарваўскай канферэнцыі настаўнікі атрымалі новую „Праграму навучання ў пачатковых школах з дадатковым прадметам беларускай мовы". Аўтарамі праграмы з'яўляюцца: Ніна Баршчэўская, Тамара Русачык і Вольга Сянкевіч. У апрацоўцы саўдзельнічала таксама ГП БГКТ. Праграму зацвердзіла Міністэрства нацыянальнай адукацыі ў лютым г.г. для ажыццяўлення з 1995/96 навучальнага года.

Трэба яшчэ на заканчэнне адзначыць, што канферэнцыя настаўнікаў беларускай мовы мела свой мастацкі элемент. Як уступ да даклада Н. Абрамюк, выступіла тэатральная група з Пачатковай школы ў Нарве. Калі акцёры ўвайшлі на сцэну, найстарэйшая вучаніца паведаміла: „Мы сабраліся, каб пагутарыць аб навакольным асяроддзі, аб прыродзе..." Зараз да дзяцей завітала Гаспадыня Лесу, якая і правучыла ўсіх прысутных, як трэба сябе паводзіць у лесе. Далей пайшлі адгаданкі пра бярозу, дуб, кусты, кветкі, травы... На сцэне з'яўляліся: ліса, птушкі са спякотных краін, мядзведзь, што ўсю зіму праспаў, прагаладаўся ды нікога не бачыў. „І лес, і дрэвы, і кветкі, — сказала ў заканчэнні Гаспадыня Лесу, — гэта наша радзіма і мы павінны яе берагчы". А пазней былі воплескі.

**Аляксандр Максімюк**

# Сумная рэфлексія

Яшчэ нядаўна дзень 1 лістапада — Усіх Святых — праваслаўныя не лічылі сваім святам. Цяпер і па нашых вёсках людзі сталі адзначаць гэты дзень, прыбіраць магілы, ставіць на іх кветкі і ўспамінаць сваіх блізкіх, якія адышлі ад нас.

Усіх Святых — дзень задумы і рэфлексіі. Сяджу адзін у хаце, а за акном сумнае дажджлівае надвор'е. Гартаю свежы нумар „Нівы" ад 29 кастрычніка і спыняю зрок на рэпартажы Ады Чачугі „Там, дзе жыў Дзядзька Квас". Ніколі не быў я ў Малынцы. Не прыйшлося мне асабіста сустрэцца з Міхасём Красоўскім, аднак вобраз Дзядзькі Кваса намаляваны аўтаркай публікацыі паказаўся мне блізкім і знаёмым.

Хто ж не памятае славутага ніўскага карэспандэнта з Малынкі? У маёй памяці застанецца Ён назаўсёды як сардэчны калега па пяру, з якім доўгія гады сустракаліся мы на старонках „Нівы". Па сённяшні дзень захаваўся ў мяне верш, які „Ніва" ад 5 сакавіка 1978 г. друкавала ў рубрыцы „Парнасік". Называўся ён „Замест слова ў дыскусіі на з'ездзе карэспандэнтаў "Нівы"" і Дзядзька Квас ацаніў у ім амаль кожнага карэспандэнта з ніўскага „авангарда". Пісаў Ён так:

*Што калегі Я-ша й Лор*
*Узор флегматыкаў-селькор,*
*Што Крыніца памяльчэла,*
*Бы на мелі Сядзем села,*
*Вірскі слаба штосьць віруе,*
*К-ус, Янтар яму ўтаруе,*
*А таксама наша Кветка*
*Расцвітае ў „Ніве" рэдка.*

І далей аб „вядучых":

*Аднак большасць, скажу смела,*
*Піша шчыра і умела.*
*А. Закройшчык і А. Джэны*
*Матэр'ял дае нядрэнны.*
*З А.З. варта браць прыклад,*
*А Сідарук піша шмат,*
*Абгрунтавана і стала.*
*Піша Кірызюк нямала,*
*І пахвалы варты Байка —*
*Белавежы ўсёй ўсёзнайка,*
*І Петручук не спяшае,*
*Но на якаясь уважае,*
*А калега Бандарук*
*Размахнуўся з абех рук.*

Яго словы траплялі ў нашы сэрцы як лозунг, давалі духовае натхненне. Зараз няма Дзядзькі Кваса ў жывых, пакінуў нас назаўсёды.

Сумная гэта праўда, аднак больш сумным здаецца быць тое, што жывыя людзі, колішні ніўскі авангард, забываюць аб сваім родным часопісе. Я разумею, што кожны з нас мае свае праблемы і клопаты, што старэемся і, як напісаў Валянцін Семянюк, становімся дзядулямі. Гэтыя ўсе праблемы не абмінулі і мяне, але я ніколі не парваў кантактаў з „Нівай" назаўсёды. Пасля кожнага „крызісу" вяртаўся я на старонкі „Нівы", так як раблю гэта зараз. І віталі мяне ў рэдакцыі сардэчна, як свайго добрага калегу. Сардэчна ім за гэта дзякуй!

**Уладзімір Сідарук**

# Спосаб на поспех у каханні

Фідзяль крышыў пацяруху ў жылаватых далонях. Чэрвеньскае сонца пякло ў карак, чырванелі малінаю адкрытыя рукі пад кароткімі рукавамі белай кашулі. Кароткае вудзільна ўваткнуў у руды бераг. Сачыў за паплаўком.

— Вы што, дзядзька Фідзяль, думаеце звабіць на гэта сур'ёзную рыбку?

Фідзяль адвярнуўся сваім каржакаватым целам у бок голасу, туды, адкуль сляпіла амаль летняе сонца. Вывернуў кішэні, вытрас рэшту смецця.

— Ану, прычапіў штучную муху. Дурная рыбка на такое зловіцца, як і чалавек, — прыжмурыў стары свае выцвілыя вочы на Борку, саракагадовага кавалера з вёскі Н., мускулістага, ужо траха палыселага пуцатага бландзіна. — Маеш да мяне важную справу, ці так дзеля ветлівасці пытаешся пра рыбку?

Борка падышоў бліжэй, моўчкі патупаў, пачухаўся ў патыліцу пад палатнянай кепкай, уважліва ўгледзеўся ў ваду, якая кругамі абводзіла чырвоны паплавок, плюнуў як найдалей ад берага.

— Ффу-у, машкара пачынае збівацца пад карчамі, — заўважыў, — мусі на дождж пад вечар.

— *Зарэ* будзе лепш кляваць. А ты тут не палохай мне ўлоў, адразу кажы, па што прыйшоў, Борка, — штурхнуў яго пад бок Фідзяль. — Не *ўстыдайся*!

— У мяне справа сур'ёзная. Сакрэтная. Не месца тут яе рашаць...

— Гавары, гавары. Тут нас ніхто не пачуе. Адчыніць які сурок табе трэба, замовіць што, ці даць якое прываротнае зелле на каханне?..

— О, во-во! Каб хоць на мяне Галенка глянула!

— То ты якую сабе дзеўку выбраў? Чыя яна сама будзе?

— То ж Анісімава Галенка.

— То ж дзіця яшчэ, толькі што ў пяску гуляла.

— Ужо *матуру* ў *ральнічай* школе зрабіла, у тэхнікуме.

— Ну, то ў нас у вёсцы яе не затрымаеш, не! Вучоная.

— Але, дзядзечка Фідзяль, вы ж такі *спец* ад чараў, ну, дайце мне якое зелле ці замову, каб мяне захацела.

— Ну, добра, Борка, дам табе такое, дам, але глядзі, як дзеўка ўкляпаецца ў цябе, то валамі яе ад сябе не адцягнеш. А ці хоць добрая гаспадынька з яе будзе? Плодная? Краса не ёсць справа найважнейшая. Маю Параску насватаў мне мой дзядзька, *ненайхарошчая* з твару, як на дзеўку, была, але баба добрая, анёл не чалавек, і гаспадыня дай Божа, і палюбіў я яе як сваю душу. Памерла пры родах. І так я з тае пары бабыль, дапамагаю людзям, а сам сабе ніяк не дапамог, ды і не шукаў сабе суцехі.

— Не ведаю, як там з ёю, дзеўка з выгляду сам мёд. А мне ўжо нават хай кульгавая ці лянівая, абы была. Давайце, Фідзяль, што-кольвек, абы каханне падзейнічала як гром. Хай трава, хай напой які, нават які парашок магільны, — я чуў, што такое вы калісь давалі. Або пару слоў, што звалілі б яе з ног... Усё зраблю, як скажаце, бо самота ўжо да касці заела...

Пайшлі Фідзяль з Боркам у бок хутара на Зайчым Хвасце, дзе стаяла хата ў цені трох магутных ліп. Вудачку стары закінуў за спіну — зноў не злавіў нічога. Найчасцей траплялiся яму асцістыя плотачкі ці шчупачкі ў мезенец, тую малечу і выпускаў, шкадаваў, або Бегемоту прыносіў. Тоўсты чорны блішчасты кот выбег на сцежку, з надзеяй у жоўтых вачысках пачаў церціся ля ног гаспадара, прасіцца пачастунку. Фідзяль тыцнуў яму пад нос вудачку: глядзі, нічога нямашака, і Бегемот злосна фыркнуў і плітануў у маладое жыта.

— Во жыву з ім адным, як і быць павінна чарадзею. Ну, ты, Борка, хочаш, каб табе дадзь лякарства на кампанію, і яшчэ каб каханне было... Мне самому лепш было б чаго напіцца і прыгаварыць якую адзінокую цётачку, але якая пойдзе ў такую глуш, на такое „багацце"! Усе выгоды хочуць. Лепш ісці дахаваць да смерці якога скручанага раматусам пенсіянерыка ў блёку, чым са мною тут у карчах сядзець, хоць я яшчэ дужы, моц маю, і не зусім лысы...

— А чаму і не, маю на воку для вас *падхадзяшчую* бабку, у вёсцы З. у N-скай гміне. Аўтобусам пад яе хату даедзеце. А мне парайце, як здабыць Галенку, заплачу, не пашкадуеце...

— Добра, добра. Палічымся. Шчасцю няма цаны.

Паставіў Фідзяль на стол слоік кампоту і шклянкі, палез у шкапчык за Кнігай. Доўга глядзеў гараскопы, чарціў нейкія лініі і колцы на лістку пажаўцелай паперы, меркаваў...

— Гэта Кніга мне асталася ад прадзеда Нічыпара. Як паміраць буду, трэба мне будзе каму яе перадаць. Веды тут шмат, не на кожную галаву...

— Я не хачу! — замахаў рукамі Борка. — Каб пасля чэрці *мэнчылі*?! Ну, дзядзька, сходна там што мне з Галенкай у Кнізе, так ці не?

— Ну, як сказаць... Лёс у вас інакшы. Лепш злаві ты ў Купалле жабку, зачыні яе ў гаршчочак, завяжы яго, засунь у мурашнік. З чыстага шкілецiка вазьмі з ножкі костачку загнутую ў кручок, тою косткай і прыцягні дзяўчыну да сябе. А гавары вось што паціху...

Запісаў усё дзядзька Фідзяль Борку на паперцы, бо той ніяк не мог спамятаць рэцэпт.

— А як будзеш мець дзеўку досыць, тою костачкай адпіхні яе ад сябе...

— Што адпіхаць, я хачу мець бабу ў хаце! А цяпер пішыце сабе заметку: Карная Лёнька, вёска З., хата *напроціў* аўтобуснага прыпынка. У N-скай гміне. Ну, вельмі ж цікава, хто першы будзе піць „горкую гарэлку"!

Нядоўга збіраўся Фідзяль да цёткі Лёнькі, заехаў ранішнім аўтобусам яшчэ ў чэрвені. Цётка не спадзявалася сватоў і не думала пра жаніцьбу, але на тое „чараўнік" ведаў свае чары, каб спадабацца вясёлай удавіцы. Файная з іх пара — сцвердзілі і старыя, і малыя: кругленькая, мілавідная жвавая бабулька і жылісты дужы дзед, разважлівы і вучоны. За Пакрову абое ўжо сядзелі ў добра напаленай хаце на Зайчым Хвасце над Нарвай (нічога, што да аўтобуса адсюль далей).

Борку таксама ўдалося — на Купалле злавіў зялёную жабку, са слязамі ў вачах усадзіў бедную ў завязаны анучкай рандэляк ды загроб у мурашнік. На забаве прыцягнуў гарачую дзеўку чыстай костачкай, прыціснуў Галенку у танцы, нашаптаў „чары-мары" ў вушка, а тая і не была супраць. Справа пайшла хутка і ў пажаданым Боркам выніку — Галенка зранку прачнулася ў Боркавым разбэрсаным ложку.

А зранку віднеў — сёмы месяц. Або і восьмы, калі на цвярозае вока.

Спахапіўся Борка, выцягнуў з кішэні пакамечаных нагавіц жабіну ножку, тыцнуў каханцы ў грудзі: ідзі прэч! І дзяўчына злезла з пасцелі ды пайшла дахаты.

Борка ўпэўнены, што Фідзяль Васілюк — спецыяліст выдатны, а яго парады — паспяховыя.

**Міра Лукша**

# З пісьма да прыяцеля

Самыя гарачыя ўражанні ад наведання Бацькаўшчыны крыху астылі і цяпер мой расказ можа будзе больш памяркоўны. Цяжка нават акрэсліць пачуццё, выкліканае пабыўкай у родных мясцінах. Будучы ў сям'і майго брата ці тваёй сястры ўсё паказваецца нармальным, свойскім, блізкім сэрцу. Хопіць высунуць нос вонкі, напрыклад, у напалову пустую краму, што прыпамінае саракавыя гады сваім неахайным выглядам ці на пошту альбо ў касу нейкага вакзала, вернешся балюча хворы ад некультурнасці (мякка кажучы), абыякавых адносін з боку прадаўшчыц ці чыноўніц, якія лічаць сябе ў сваіх паводзінах кімсьці ад каго ты — інтруз — залежны. Паспрабуй пазвані ў справачную тэлефонаў у Лідзе з пытаннем пра код у Праважу. Пачуеш адказ-пытанне: „Какую цебе яшчо Праважу?" і бразгат трубкі тэлефона. Ты сам, паводле яе, а не яна, павінен ведаць, што трэба прасіць на Воранава ці мо на Забалаць. Дык звоніш яшчэ раз, але ўжо пытаеш яе манераю: „Номер на Воранава дай". Яна Табе адтрайкоча „трататата", так што ты не толькі не запішаш, але нават не пачуеш, і маментальна адключаецца. Тады нехта, што сочыць за табою збоку, вырывае ад цябе трубку і звоніць на той самы нумар з рэкламацыяй: „Ты что, обнаглела окончательно, не сможешь человеку объяснить как следует номер на Вороново, а то я тебе поищу". Тады толькі атрымаеш зразумелы адказ не з абавязку, не з-за ветлівасці, але з-за страху, што пэўна нехта важны, а не звычайны, спакойны грамадзянін, уступіўся за дзядзьку, што пытаў яе „на вясковай мове".

Мімавольна насоўваецца думка, што такая адна з другою вернецца дамоў і стане нармальным чалавекам — зусім іншым, ахопленым турботай як накарміць дзяцей, дагадзіць мужу, каб без аплявухі абышлося і т.д. Спаткаўшы паўсюдна такія адносіны, падумаеш: „Мой Божа, за што Ты пакараў той спакойны працавіты народ, адкуль узялося ў яго столькі расчараванасці?" Да чаго давялі яго тыя нечысці? Але сам народ ужо гэтага так востра не адчувае. Ён пакорна працуе без зарплаты па 3—4 месяцы, корміцца тым, што выгадуе на сваіх сотках, з'ездзіць на сяло бульбу капаць, за што мяшок для сябе атрымае і так існуе ў безнадзейнасці. Ды што ж ты можаш яму сказаць пра палітыку, нацыянальную свядомасць ды якісь там гонар. Гэта для яго абстракцыя, выдумка, пра якую нават небяспечна ўспамінаць у пару, калі ўсе старыя „парадкі" вяртаюцца.

Па радыё плывуць (з „громкоговорителя") адны толькі салодкія да млосці „памысныя" інфармацыі пра дасягненні калгасаў і т.д. Іншых не пачуеш і не прачытаеш, а калі заікнешся, што тыя калгасы паводле іншых статыстык у 90% чакаюць датацыі дзяржавы, палічаць цябе варожым прапагандыстам, ну зусім як у „залатую" сталінскую эпоху.

Праўда, вядучыя рэдактары на радыё бяруць інтэрв'ю па-беларуску, але ўсе адказы суразмоўцы даюць на „общепонятном языке исключительно". Ды няма чаму дзівавацца людзям, бо які дырэктар ці іншы чыноўнік хацеў бы страціць пасаду з-за „безграмотности"?

Наваградак астаўся ў маёй памяці як калыска беларускасці і бастыён яе дык вельмі ж цягнула мяне туды. Мэтай былі адведзіны ўдавы па маім прыяцелю Алесю, які таксама як і я, быў накіраваны нашым незалежніцкім рухам на працу ў СБМ, а пасля вайны дзяліў са мною лёс у Карлагу. Цяпер толькі жанчына „адкрылася", што вярнуўшыся з лагера Алесь быў безупынна пад наглядам НКУС. Кожная чарговая яго адмова супрацоўніцтва адбівалася праследаваннем, што давяло таго спакойнага чалавека да глыбокай неўрастэніі і ў рэшце рэшт — да смерці. Паразіла мяне нечаканасць, што ідучы цераз Наваградак на кожным кроку чуецца выключна „лукашэнкаўская" моўная трасянка, якую ўважаюць тут за расейскую. Хіба што спаткаеш вясковых суседзяў, якія саромеюцца між сабою прыдурвацца і „рэжуць" па-свойму.

У Лідзе вельмі добра зарганізаваныя каталікі. За справаю „місіянераў" — ксяндзоў з Польшчы, якія „адкапалі" і замацавалі сваім парафіянам прысвоеную ім у мінулым польскім касцёлам мянушку „палякі", а каталіцкае веравызнанне назвалі польскім. 30% каталіцкага насельніцтва ў Лідзе (у адносінах да агульнай колькасці жыхароў горада) абслугоўваюць два аграмадныя касцёлы. Клір жыве ў трох касцельных дамах, якія адрозніваюцца шыкарнасцю ад навакольнага будаўніцтва. У большасці гэта прышэльцы з Польшчы — у сярэднім каля дзесяці ксяндзоў (лік іх мяняецца). Безупынна вядуць яны заняткі з дзецьмі і моладдзю і выконваюць канфесійныя паслугі. Пры выдатнай дапамозе глемпаўскай імперыі завяршаецца пабудова трэцяга велізарнага касцёла, што велічынёй не ўступае не абы-якой базіліцы. На пытанне да жанчын пасля набажэнства, ці яны зразумелі, што ксёндз гаварыў, адказ быў просты: „Што ж тут панімаць; гавары пацеры як цябе навучылі і ўсё паніманне". Адна з жанчын дабавіла: „Быў тут адзін ксёндз Ігар, што гаварыў па-просту — па-нашаму, але яго хутка забралі і кажуць, што выслалі ў Польшчу".

Каля 60% насельніцтва Ліды — праваслаўныя — маюць адну драўляную царкоўку на старых могілках. Пачатая 3—4 гады таму будова царквы перапынілася на фундаменце. Прыхаджане скардзяцца, што маладога святара айца Васіля, які энергічна ўзяўся за будову, здабыў сярод людзей аўтарытэт і пашану, хутка абсадзіў стары благачынны, філарэтчык, адабраўшы яму якую-колечы ініцыятыву.

Вось тут і прыпомнілася мне Твая заўвага, братка, што „Филарет филаретствует по-своему". Думаю, што каментарый тут быў бы лішні, але ўсё ж насоўваецца пытанне, ці тут справа ў адным Філарэцы ці яго людзях, калі прэтэндуем звацца вольным народам?..

**Янка Жамойцін**

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Сніцца мне, Астроне, такі сон. Быццам я знаходжуся ў родным горадзе. Але была дзесьці за мяжою і вярнулася адтуль са сваім сябрам, які там жыве пастаянна. Ён — вядомы спявак. І вось далей сніцца мне, быццам едзем мы па цэнтральнай вуліцы нашага горада на нейкіх дзіўных машынах: яны едуць па рэйках, але выглядаюць, як цудоўнай прыгажосці карэты. Ён едзе ў сваёй карэце, а я, побач, на другіх рэйках, — у сваёй. Навокал даволі цёмна, якраз змяркалася. А мы ляцім у гэтых дзіўных, размаляваных карэтах наперад, і ад гэтых карэт ва ўсе бакі ідуць у цемру светлыя праменні, якія асвятляюць ноч. Цудоўныя колеры: жоўтыя, чырвоныя, зялёныя. Мінаем знаёмыя вуліцы.

І раптам мы з гэтым сябрам апынуліся ў нейкім клубе. Быццам мы яшчэ не прыехалі дадому, а заехалі ў гэты клуб па дарозе. Я даведваюся, што мне тут маюць уручыць нейкую французскую ўзнагароду. Сядзіць журы, і нейкі чалавек гаворыць, што яшчэ не падрыхтавалі дыплома. Я крыху расчараваная. Мы паехалі далей. Ізноў ляцім на тых карэтах, быццам бліскавіца. Я еду дахаты. Зусім спакойная, бо ведаю, што там мяне чакае другая ўзнагарода з Францыі. І раптам, расчараваная, прачынаюся. Што можа абазначаць гэты сон?

Надзя

Надзя! Твой вельмі прыгожы сон сведчыць аб тым, што былі ў цябе нейкія вялікія надзеі, якія, на жаль, могуць не цалкам спраўдзіцца. Аднак жа са сну відаць, што жыццё тваё можа быць даволі цікавае, калі сняцца табе такія цудоўныя рэчы.

АСТРОН

## ПАРНАС

ЧЫТАЛЬНІЦКАЯ НЕГАРАНТАВАНЫХ ЛІТСУПОЛКА НА ТАЛЕНТАХ

### Беласточак ноччу

Прыходзіць ноч.
Беласточак
Рагоча.
Ляжу і думаю,
Старая,
Лістападаўскім
Падвячоркам,
Што *яны* маюць,
Настрой не на гора,
Сэрцы здаровыя,
Думкі без болю...
Пацешыцца хочаш —
Сюды прыязджай,
Будзем рассмешвацца:
— Хі-хі-ха-ха! —
З моладдзю ноччу
Слыхам суцешвацца.

**Іда Лукша-Кавалевіч**

### Лістапад і сцюжа

Лістапад —
Лісця спад:
Падаюць, віруюць,
Зіме шлях рыхтуюць.
Схаваліся шчыльна
Мошка і звярына,
І барсук у нары,
Мышы на двары.
Холад ужо чуваць,
Корм трэба даваць
Для кароў, авечак;
Гэта ўжо не лета.
Сцюжа наступае,
Цела пранікае
Калі на двары
Няма ўжо жары.
А кароткі дзень
Праляціць як цень,
Што ні перад табою,
Як і ні за сабою.
А затое ночка
Даўжэй ад дзянёчка —
Глядзець у экран
Хлусню і абман.
Хто чытае кнігу,
Тожа бачыць фігу.
Хто каля газеты —
Блізка самой мэты.
І мароз, і снег —
Гэта ўжо не смех!
Разам завіталі,
Лістапад прыбралі.

**Мікалай Панфілюк**

### Могілкі

Тут усё тваё пахаваюць.
Красу, багацце, дабрату.
Твой свет адыдзе з табой.
Жывое астанецца жывым.
Дом твайго цела ў зямлі.
Душа ўзнясецца да Бога,
Адкажа за сваё жыццё.
Тысячы крыжоў на зямлі
З надпісамі, сярод іх —
Тваё імя. І кветкі.
Ад блізкіх, якія прыйшлі
З малітвай за спакой душы.
Не плачце, мілыя, па мне.
Сляза мяне не ўваскрэсіць.
Супакоіць малітва душу.

**Аўрора**

## З народных песень

*(працяг; пачатак у папярэднім нумары)*
*Прыпеўкі з ваколіц Полацка, Лепеля, Глыбокага і Празарок.*

Ой купіў мне мілы грэбень
З дваццаці пяці зубоў.
А я яму падарыла
Сваю верную любоў.

Выйду, выйду на вуліцу,
Гляну, гляну на сяло.
У садзе птушачкі спяваюць.
Без мілога цяжало.

Свеціць месяц на сто дзесяць,
А зорачка на сто пяць.
Мае даўнія ўхажоры,
Сталі ўхажываць апяць.

Ах пайду я на магілку,
Разбуджу радную маць.
Устань маменька радная,
Пампж гора гараваць.

Мама, нада ісці замуж,
Скажы, абы лепей была,
Сорак мальцаў цалавала,
Абнімала і любіла.

Не аддам майго мілога
Ні за золата нікому.
Я яго люблю за гэта,
Што ён ёсць са мной у дому.

Я сядзела на камодзе,
Шыла плацціцо па модзе.
Па баках карманчыкі,
Каб любілі мальчыкі.

Я за рэчаньку гляджу,
За мілёначкам тужу.
А як прыйдзець, пацалуець,
Што люблю яго скажу.

Крою, крою, шыць не буду
Рубашонку белую.
Хто зачэпіць маю мілку,
Забастоўку здзелаю.

Мяне мілы ізмяніў,
Як цялегу на хаду.
А я цябе, мой мілёнак,
Да пякоткі давяду.

*(працяг будзе)*

**брат Браніслаў Кавэцкі**



## КРЫЖАВАНКА

**Гарызантальна:** 3. нямецкі матэматык (1777—1855), 8. вадкасць з наваром таго, што ў ёй варылася, 9. горад між Менскам і Лідай, 10. вузкая трохвугольная ўстаўка ў адзенні, 11. страва з мяса і гароднiны, 13. гультай, неслух, 15. нарыхтоўвае дровы, 16. краіна папуасаў, 20. японскае самазабойства, 22. не копія, 23. цюркскія плямёны, якія ў VI—X ст.ст. пражывалі над Дунаем, 27. яўрэйскі малітоўны дом, 29. ураджэнец той самай мясцовасці, 30. заўзяты паслядоўнік якога-небудзь вучэння, 31. англійскі сацыяліст-утапіст, 32. горад на Шчары, 33. горад на поўначы Беларусі, 34. горад у Румыніі.

**Вертыкальна:** 1. адзенне, 2. папугай з доўгім чубам і моцнай дзюбай, 4. галалёд, 5. трыганаметрычная функцыя, 6. упрыгожанне з кветак, 7. паэтычны твор для спеваў, 12. паўднёваамерыканская краіна, 14. чалавек, які трапіў у біду, 16. кампазіцыя чаго-небудзь, 17. узнагарода, 18. перад Табою, 19. конь з белай плямай на лбе, 21. тэмп менш хуткі, чым алегра, 24. мужчынскае імя, 25. калючая халодная зброя, 26. для падмятання, 27. цякучая вадкасць у роце, 28. дзяржаўны дзеяч Зімбабве (яго прозвішча можна скласці з літар: а, к, м, н, о).

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 41 н-ра:**

**Гарызантальна:** валока, карова, сатана, Тыгр, Адам, упаднiцтва, мука, Газа, какава, рамонт, гарэза.

**Вертыкальна:** вароты, каса, Кана, Валаам, тапаніміка, групка, адвага, муштра, залоза, кант, вага.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Мікалаю Сазановічу** з Навінаў-Вялікіх і **Яўгену Бялькевічу** з Чыжоў.

## Цікава ведаць

### Дзе зімуюць... матылі

Па маштабах міграцый гэтых кволых істот можна параўнаць з... пералётнымі птушкамі. Напрыклад, непадалёку ад сталіцы Мексікі знаходзіцца незвычайны запаведнік. Кожную восень тут на дрэвах збіраецца на зімоўку да 50 мільёнаў прыгожых матылёў-манархаў. Вясной манархі адпраўляюцца назад у Канаду і так як за лета ў месцах пастаяннага іх жыхарства змяняецца 3—4 пакаленні, то на зімоўку ўжо вяртаюцца матылі, якія ніколі не былі ў Мексіцы. Фенаменальная генетычная памяць дапамагае нованароджаным беспамылкова знайсці гэтае адзінае месца свайго выраю. Працягласць пералётаў дасягае ад 1,5 да 3 тысяч кіламетраў.

У Еўропе, у тым ліку і ў нас, водзіцца матыль рэпніца. Восенню вялікія іх чароды ляцяць на поўдзень. Некаторыя гінуць у дарозе, але нейкая частка дасягае Сахары, каб адкласці яйкі і адразу загінуць. Дзеля чаго гэтыя матылі ляцелі далей чым тры тысячы кіламетраў? Толькі для таго, каб адкласці яйкі ў гарачай пустыні. А вясной маладыя, ярка афарбаваныя рэпніцы імкнуцца ў далёкае падарожжа на поўнач, каб таксама выканаць свой доўг — адкласці яйкі і таксама загінуць. Потым усё паўтараецца, і восенню новае пакаленне зноў паляціць дарогай „продкаў” у Сахару.

Энтамолагі лічаць, што ў рэпніц, як і ў манархаў, такія ж шляхі падарожжаў, што і ў птушак. Праўда, матылі, у адрозненне аж птушак, накіроўваюцца ў свой пералёт толькі раз. І што характэрна, новая моладзь ляціць не проста на поўдзень ці поўнач, а ў пэўны, часам вельмі невялікі раён. Як гэта адбываецца? Цяпер пакуль няма вычарпальнага адказу.

апр. яц

## Модніца

— Ты наракаеш, Кася, што ў цябе мала грошай астаецца *на жыццё*, а кожны раз, калі прыедзеш да мяне, то апранутая як каралева, — агледзела Манька ад галавы да пят сваю дваюрадную сястру.

— У мяне сапраўды мала грошай, але я танна апранаюся. Прыедзь да мяне, знойдзем і для цябе нешта някепскае ды прыгожае.

Манька прыехала да сястры ў чацвер, якраз у базарны дзень. Думала, што на *рынку* таннейшае што-небудзь купіць.

Але Кася не пайшла з ёю на базар, а павяла па жыллёвых кварталах. І ўсё падыходзіла да сметнікаў.

— Ты што мяне так водзіш? — здзівілася Манька.

— Пачакай, зараз пабачыш! Пакуль нам не шанцуе. Можа дзе таннейшае знойдзем пасля...

Урэшце да аднаго сметніка падышоў нейкі мужчына ды паставіў каля сценкі два вялізныя мяхі і вярнуўся ў блёк.

Кася хутчэй падбегла і давай вытрасаць усё, што было ў мяшках.

— Ты хіба здурэла, ці як? — знервавалася Манька. — То ж нехта ўбачыць і будзе смех людзям!!!

— Чаму смех? Ведаеш, колькі людзей так шукаюць адзення? Абы-што людзі выкідаюць у сметнік, а лепшае вось так ставяць, збоку — можа камусьці прыдацца. Трэба спяшацца, каб не разабралі! Вось, паглядзі, якая прыгожая сіняя сукенка, будзе якраз на цябе.

Манька спачатку адсоўвала сукенку, саромелася, але плацце сапраўды было нябрыдкае і цэлае. Пасля пераглянулі разам усё адзенне. Манька выбрала сабе некалькі спадніц, блузку ды нават цёплую куртку.

У нядзелю апранула сваю новую сінюю сукенку. Суседкі дзівяваліся — дзе купіла такую прыгажосць, ды і ляжыць на ёй як пашытая. Манька пахвалілася, што вельмі танна яна ёй каштавала, а ў малую краму, дзе набыла сукенку, завяла яе Кася. Але краму тую ліквідавалі, бо ўласнік абанкрунціўся!

Аўрора

**Ніва**

“Niwa”
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 421-033.

Druk: “ORTHDRUK”, Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

Рэдагуе калектыў:
Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

Выдае:
Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
Старшыня Праграмнай рады — Валянцін Сельвясюк

Prenumerata.
1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1996 r. upływa 20 listopada 1995 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na I kwartał wynosi 9,10 zł (91 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.
Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,30 zł (13 000 st. zł), a kwartalnie — 16,90 złotych (169 000 st. zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# НІЎКА

## Радкі з клічнікам

Ну і грыб!
Мой равеснік.
*
Не ўцякай!
Гэта мяне ловяць.
*
Лабірынт!
Клубок у далоні,
толькі сарвалася нітка.
*
Патоп!
Не адчайвайся, у каўчэгу твая жонка.
*
Лопнула люстра!
Ад знямогі, зачаста спатыкалася на барознах твайго твару.
*
Не віляй хвастом!
Дык я ж жанчына, шаноўны!
*
Люблю жыццё!
А я цябе.
*
Ну і сківіцы!
А так цесна ў іх.
*
Дух!
Гэта ж вецер калышацца ў прасціradле.
*
Голыя!
А мушка на шыі.

**Барыс Руско**

Мал. А Каршакевіча

## Смех у санаторыі
### або „Даўціпы” з альбома Андрэя Гаўрылюка

— Ці ты зусім не маеш сораму? — папракае бацька дачку, якая ў атэлье пазіравала жывапісцу.

— Але ж, татачка, я не пазіравала голая: ён маляваў мяне па памяці.

***

Размаўляюць дзве сяброўкі:
— Зрабіла ты вялікую памылку, што не выйшла за Валодзю замуж. Цяпер ён жэніцца са мною.

— Гэтага спадзявалася! Калі я яму адмовіла, дык сказаў, што зробіць нейкае глупства.

***

— Не засланяйся гэтай газетай, — гаворыць жонка мужу, — і не прыкідвайся, што чытаеш! Добра ведаю, што мяне чуеш, бо бачу, як табе калені трасуцца.

***

— Скажы мне, Коля, але так шчыра, чаму ты ажаніўся з гэтаю Варкай: цяжарнасць ці грошы?

— Папросту закахаўся.

— Ну так; адразу ведаў, што ў вашым сужонстве нешта не ў парадку.

***

— Вы — лётчыкі, многа прабываеце ў паветры. Скажыце мне, ці бачылі вы калі-небудзь лятучыя талеркі?

— Ну пэўна! І то ўжо тыдзень пасля вяселля.

***

— Перажылі капіталізм, перажылі камунізм, а цяпер перажываем посткамунізм...

— Што гэта такое, посткамунізм?

— Шэсць дзён посцім, а на сёмы дзень ідзем да камуніі.

***

У варожкі:
— Сустрэнеш мужчыну і будзеш мець з ім дзіця.

— Ужо сустрэла і ўжо маю дзіця. Скажыце мне лепш, дзе ён цяпер прабывае!

***

Жыхару Масквы ўкралі самаход. Заявіў ён пра гэта ў міліцыю. Афіцэр распытвае:

— Якую вартасць меў гэты самаход?

— Нейкіх 20 тысяч рублёў.

Афіцэр глянуў на пакрыўджанага і папрасіў падысці да акна.

— Бачыце яго?

— Вядома, гэта помнік Леніну.

— А што ён трымае ў руцэ?

— Шапку.

— А якая вартасць гэтай шапкі?

— Будзе з пяць рублёў.

— Ну, бачыце! Мудры Ленін не выпускае са жмені шапкі за 5 рублёў, а вы пакінулі на вуліцы самаход варты 20 тысяч.

***

— Якое ёсць падабенства між Бушам і Валэнсам?

— Абодва слаба гавораць па-польску.

## У АДКАЗ РЭДАКЦЫІ БЕЛАРУСКАГА ШТОТЫДНЁВІКА „НІВА”

У 8 нумары „Нівы” за гэты год ад 19 лютага (с. 10) у адказе рэдакцыі на маю „Папраўку” загучалі моцныя словы пра быццам бы мае „радыкальныя антыбеларускія погляды”, якія я, маўляў, выказаў на старонках гэтага тыднёвіка. Рэдакцыі „Нівы” я ўдзячны за тое, што толькі яна змагла звергнуць з мяне міф „беларускага шавініста”, які кружыў пра мяне пасля майго вяртання з Інстытута сусветнай літаратуры імя А. М. Горкага Акадэміі навук былага СССР у Маскве пад канец 1988 г. і ад гэтага часу ў адной з Акадэміі навук і за што ўжо 2 жніўня 1989 г. выкідалі мяне з працы тамашнія партыйныя таварышы, у тым ліку адзін з сённяшніх навуковых супрацоўнікаў дац. А. Дравіча ў гэтым Інстытуце і ягоная правая рука, адзін з сакавіцкіх дацэнтаў і вядомы на ўсю Польшчу таварыш перакладчык!

Каб выказаць добрасумленнасць спадароў рэдактараў „Нівы”, шаноўных Чытачоў інфармую, што мой палемічны тэкст са сп. М. Куптэлем налічваў усяго дакладна 6 з паловай старонак машынапісу. У выніку жа „стылістычнай дапрацоўкі” з „рэдакцыйным правам” рэдакцыі „караціць тэксты” ў друку амаль дакладна знайшлася яго палова!

Мая прыроджаная здольнасць да філасофствавання вынікае адсюль, што двух маіх дзядуляў і бабуля сваё дзяцінства і раннюю маладосць правялі ў былой сталіцы Расіі — Пецярбургу, у якой рускія цары маглі сабе дазволіць час ад часу пафіласофстваваць!

Галоўнага рэдактара „Нівы” сп. Яўгена Міранова віншую з дасканалым авалоданнем ім беларускай мовай, а маёй старой рэдакцыйнай сяброўцы беспартыйнай тав. рэд. Адзе Чачузе зычу, каб яна змагла так авалодаць маёй роднай украінскай мовай, як я яе напаўроднай беларускай, прынамсі ў яе падляшскім плюшчыцкім варыянце!

Папраўленыя рэдакцыяй у маім тэксце памылкі я зрабіў свядома, каб праверыць, ці добра ведаюць яшчэ сваю мову рэдакцыйныя беларусы, у тым ліку і насаджаныя ў ёй мною добра закансьпіраваныя ўкраінскія падляшскія агенты!

З павагай Ваш радыкальны антыбеларус

**Юры Трачук**

Ад рэдакцыі: Юрка, жадаем Табе добрага здароўя!

---

Даражэнькі спадар Юрка!

Ужо тры гады, як я не папраўляю „Ніву”. У рэдакцыйнай стопцы выразна напісана, што сакратар рэдакцыі — Віталь Луба.

З прывітаннем

**Ада Чачуга**

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Было гэта больш дваццаці гадоў таму назад. Тады яшчэ, міленькая Сэрцайка, так не ездзілі праз граніцы, як сёння. Я жыла на Беларусі і працавала тэлефаніcткай у воінскай часці. Часта даводзілася мне званіць у Польшчу па службовых справах і такім чынам я пазнаёмілася (вядома, завочна) з адным маладым тэлефаністам. Мала-памалу і завязалася паміж намі нейкая сімпатыя. Мы гаварылі з ім штораз часцей і нашыя размовы пераходзілі на іншыя рэйкі. Замест афармлення службовых спраў мы пачыналі гаварыць на інтымныя тэмы. У пэўным моманце мне здалося, што я закахалася ў чалавека, якога ніколі не бачыла.

Мы вырашылі абмяняцца фотаздымкамі, бо пісьмы ўжо пісалі адзін другому раней. На здымку, які я атрымала, стаяў прыгожы хлопец дваццаці сямі гадоў. У мяне стварылася прыемнае ўражанне, што гэта цудоўны хлапец. Калі мы гаварылі па тэлефоне і я чула яго голас, па маім целе ішлі дрыжыкі.

Хлопец пачаў гаварыць пра жаніцьбу. Трэба было мяне выклікаць, бо ён хацеў абавязкова браць шлюб у касцёле ў сваёй мясцовасці. Я не ведала, што рабіць. Пагаварыла з бацькамі. Яны аж прыселі: дзіцятка, куды ты паедзеш! Чужая краіна, незнаёмы чалавек, хто яго ведае, з якой сям'і. Гэта ж такая рызыка...

Але я была ўпартая і паставіла на сваім. Хлопец прыслаў мне запрашэнне, я паехала. Узялі шлюб як мага хутчэй. Я не мела нават часу добра пазнаёміцца з яго сям'ёй. На першы позірк яна мне здалася парадачнай, была даволі заможная, бо мелі сваю краму. Я выслала бацькам здымак са шлюбу.

Жыццё прынесла мне шмат расчараванняў. Будучы дваццацігадовай дзяўчынай, я думала, што траплю ў рай. Выеду за мяжу, буду мець каханага мужа, багатае жыццё, бо ён усё ў лістах пісаў мне пра іхнюю краму ды вілу. Усё гэта я сабе ўяўляла, быццам у прыгожай казцы, быццам у сне, а не на яве. Ява аказалася цалкам іншая.

У вялікай віле яго бацькоў для нас знайшоўся ўсяго адзін скромны пакойчык. Было цесна і няўтульна. Я не кажу, што не дазвалялі хадзіць па іншых пакоях, але ўсюды мне не было месца. Бацькі майго мужа, хаця і моўчкі, то ўвесь час падкрэслівалі, што я тут госць ды наогул, хаця і жонка іх сына, то чужы чалавек. А працаваць трэба было шмат. Часамі я нават пачынала думаць, што іх сыну не столькі была патрэбная жонка, колькі прадаўшчыца ў іхняй краме. Бацькі яго ганялі мяне, як нейкую служанку. На маёй галаве была не толькі праца ў краме, але і догляд за ўсёй вілай. Нават звольнілі дзяўчыну, якая прыходзіла да іх прыбіраць дом. Навошта? Была ж я.

Не змяніліся яны ў адносінах да мяне і тады, калі я зацяжарыла. Усё я рабіла, як і раней. Ніхто мяне не шкадаваў, не ашчаджаў. Муж няшмат бачыў, бо ездзіў на працу ў Варшаву (мы жылі ў пятнаццаці кіламетрах ад сталіцы). Сустракаліся мы толькі познім вечарам, калі ўсё ўжо было паробленa і прыбрана. Мне было з ім добра, але адносіны яго бацькоў не давалі мне спакою.

Нарадзілася дзіця, першы сынок, а я была зусім бездапаможная. Свякруха дзіцём нават і не думала займацца. Ганяла мяне ў краму, калі дзіця спала. Цэлае шчасце, што крама была ўнізе. Я хацела запрасіць у Польшчу маіх бацькоў, яны ж не былі нават на вяселлі. Але свёкры не згадзіліся. Усё ім было цесна, не хацелі рабіць „тлоку”. Тады я папрасіла, каб дазволілі прыехаць хаця маёй маме. Яна б мне дапамагла гадаваць дзіця, але ізноў яны не згадзіліся.

Тады мы з мужам пачалі шукаць кватэру ў Варшаве. Знайшлі нейкі „катушок”, у якім нарадзілася трое нашых дзяцей. Свёкры нічога не дапамаглі, былі злосныя, што ўцякла ад іх бясплатная служанка. Было так цяжка, што не хапае слоў, каб выказаць усё гэта.

Дзякуй Богу, з часам атрымалі мы кватэру, бо муж уплаціў у спулдзельню. Пагадавалі і дзетак. Усе яны цяпер вучацца, а мы дзякуючы ўласнай працы сталі на ногі. Пішу я пра гэта табе, Сэрцайка, каб прачыталі іншыя дзяўчаты і доўга-доўга думалі, ці варта ісці замуж у невядомае.

**Святлана**

Святлана! На суцяшэнне табе хачу выказаць надзею, што прынамсі пачуццё да мужа, хаця і вынікла яно з тэлефоннага знаёмства, саграваала твае сэрца на працягу гэтых гадоў.

**СЭРЦАЙКА**